

Са сьцягам Леніна перамаглі мы ў бойках за Кастрычніцкую рэвалюцыю.

Са сьцягам Леніна дамагліся мы рашаючых посьпехаў у барацьбе за перамогу сацыялістычнага будаўніцтва.

З гэтым-жа сьцягам пераможам у ралетарскай рэвалюцыі ва ўсім сьвеце.

яхай жыве ленінізм!

І. СТАЛІН

# 20-21

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1932

# ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД ТАМУ НАЗАД



амова т. Леніна на Чырвонай плошчы



Чырвонагвардзейцы каля Смольнага



Штурм Зімняга Палацу



рыкады ў Маскве.



рад Чырвонай гвардыі перад адпраўкай на фронт



Сцэна ля Зімняй канаўкі,
Адсюль вёўся наступ на
Зімні палац

ўвельмі напружаная. Касьперскаму давол нічыя

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

Адрас рэдакцыі: Савецкая, 59 Тэл. № 17—09
Адказны рэдактар М. Хведаровіч
Сакратар Я. Шарахоўскі
Афармленьне нумару А. Тычыны

Кастрычнік Лістапад
№ 20-21
1932

## Уладзімір Ільліч Ленін



Арганізатар Кастрычніцкай перамогі,
найвялікшы правадыр прыгнечаных кляс і народаў усяго сьвету

### ЗЬМ. ПАВАРОТНЫ

# ГОРАД НА РУБЯЖЫ

I

Першыя весткі пра старынны рускі горад у „Северо-Западном Крае“ Менск (па летапісах—Меньск, Менеск. Міпеск) адносяцца да XI стагодзьдзя. Тады гэты горад, які па сьцьверджаньні тагачасных гісторыкаў „ляжыць у няпрыгожай мясцовасьці“, належаў Полацкаму князю, „чарадзею“ Усеславу Брачыславічу.

У 1796 годзе Менскае княства-намесьніцтва перастворана ў губэрню і зацьверджан гарадзкі гэрб—у галубым небе божая маці, акружаная ангеламі. Гэту божую маці і ахоўвалі губарнатары, якіх ад генерала-аншэфа Крачэтнікава і да пачатку сацыялістычнай эры прайшло многа дзесяткаў.

Далёкае мінулае Менску дайшло да нас сваімі князямі, гісторыямі іх жаніцьбаў, перахватаў нявест, казачным чарадзействам. Горад цалкам—прадаваўся, дарыўся, заваёўваўся, не аднойчы быў традыцыйным пасагам і г. д.

Рост і пашырэньне тагачаснага Менску выяўляліся адчыненьнем новых царкваў, касьцёлаў і школ для падрыхтоўкі кадраў рэлігіі.

— „У 1825 годзе была пабудавана ў Менску турма — вялізарны будынак — абнесены каменнай сьцяной, з чатырма вежамі па вуглах. Яна мае выгляд замка і спачатку насіла назву „Пішчалінскага замка“, ад імя будаўніка Пішчала.

Саборы з цудатворнымі іконамі і „пішчалінскія замкі“ высока ўзьнімаліся над старой Расіяй, дыктавалі ёй законы і парадкі. У цэнтры, на Захар'еўскай і Губарнатарскай на саборным пляцы, былі каменіцы графаў, купцоў, губарнатараў, памешчыкаў, зімнія асабнякі. А ўнізу, у падвалах, у цёмных сутарэньнях, на бедных ускраінах перакідаўся рабочы люд. Яго, гэтага чалавека, з натужлівымі вачыма і мазолістымі рукамі, хто будаваў сьвятліцы для губэрнатараў і „пішчалінск'я замкі“ для сваіх лепшых братоў па класе, не заўважалі, аб ім ня пісалі ў летапісах і гістарычных запісках. Гэты чалавек рухаў гісторыю, будаваў памятнікі культуры сваёй эпохі і ён быў пастаўлен за высокім бар'ерам чалавецкіх праў і патрэб, адкінут на Ляхаўку і Старажоўку, на Камароўку і Серабранку. Царызм будаваў на акраінах карчмы і манапольні і яны былі і школаю і домам радасьці і гора.

У мокрых падвалах, у халодных турмах, на бедных рабочых акраінах вякамі расла новая сіла, гартавала сябе, шчыльней зьбіралася ў маналітную грамаду, каб разбурыць усе бар'еры і прапоны ды заняць вышыні, ёю створаныя...

II

... У 1874 годзе ў Менску быў пабудаван гарадзкі вадаправод. У 1890 годзе зьявілася конна-жалезная дарога. У 1894 годзе была распачата ўвядзеньне электрычнасьці ў цэнтры гораду.

Вось гістарычныя даты за 20 год, самых шчасьлівых год для росту старога дарэвалюцыйнага Менску.



Стары Менск.
Пляц волі ў 1839 г. (старадаўняя акварэль)

Новы Менск, чырвоная сталіца Савецкай Беларусі, пачаў будавацца і расьці фактычна ў першыя гады першай пяцігодкі. Да 1928 году мы залечвалі раны, папраўляліся ад белай акупацыі, франтоў грамадзянскай вайны і бандытаў. Устаўлялі вокны і дзьверы, насьцілалі стрэхі ў спаленых і разбураных дамах. Прыводзілі ў прытомнасьць нашу прамысловасьць, аднаўлялі ўсю гарадзкую гаспадарку. Менск, яго пралетары, яго працоўныя масы былі ў авангардзе рэвалюцыі, гэраічна абаранялі маладую савецкую краіну з захаду і ў крывавай барацьбе нанесены цяжкія страты. Многа часу пайшло на выздараўленьне і папраўку.



Стары Менск. Спуск з Пляцу Волі на вуліцу Бакуніна.На здымку відаць рэйкі конкі. (Малюнак 1924 г. А. Тычыны)

Менск стаіць на краі новага сьвету. Там, за Тучынкай за тры дзесяткі кілёмэтраў ад гораду пачынаецца капіталістычная Эўропа. Менск стаіць на рубяжы двух сьветаў, двух сыстэм. І яго бурны рост, такое хуткае паляпшэньне дабрабыту зьяўляецца грозным папярэджаньнем імпэрыялістычным клікам і іх обэр-шэльмам, яркім і сьветлым прыкладам для людзей працы. Менск расьце, каб стварыць найлепшыя ўмовы для свайго працоўнага насельніцтва, каб быць яшчэ больш надзейным і непарушным форпостам рэвалюцыі.

Трыццаць два гады таму назад, па перапісу 1899 г. у Менску налічалася 47, з дазволу сказаць, фабрык і заводаў. На іх было занята толькі 1.640 чалавек рабочых. У наступныя пяць год фабрыкі і заводы, у зьвязку з агульным ростам капіталізму ў Расіі, значна ўзбуйніліся і да першай рэвалюцыі Менск прышоў з выросшай пралетарскай сям'ёй.

Усё-ж да Кастрычніка прамысловасьць Менску была пераважна дробнай і саматужнай, якая ў часы белапольскай акупацыі прышла ў поўнае разбурэньне.

За кароткія гады сацыялістычнага будаўніцтва ў сталіцы БССР створана новая буйная сацыялістычная прамысловасьць. З маленькіх кавальскіх майстэрань вырас чырвонасьцяжны машына-будаўнічы завод імя Варашылава. Пабудаван новы буйны скураны завод „Бальшавік“. Разгарнуўся „Камунар“. У 1929 годзе была пушчана новая швэйная фабрыка „Акцябр“, абсталяваная навейшымі спэцыяльнымі машынамі і поўнасьцю электрыфікавана. Занава адбудавана дрэваапрацоўчая прамысловасьць. Значна вырасьлі і разгарнулі работу іншыя віды фабрычна-завадзкіх вырабаў.

Рэвалюцыя пабудавала ў горадзе сацыялістычную прамысловасьць, вырасьціла магутную, маналітную шматтысячную пралетарскую калёну, выхавала баявую арганізацыю Менскіх бальшавікоў.

У 1929 г. тры гады таму назад, у XII гадавіну Кастрычніка пайшоў у Менску трамвай. Гэта быў адзін з найшчасьлівых дзён. Была адна з самых вялікіх урачыстасьцяй, якія калі-небудзь ведаў горад.

# КАСТРЫЧНІЦКАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

Цяпер мы маем у Менску 60 *км* кругавога туру гарадзкой чыгункі. У мінулым годзе трамваем перавезена 17.620.200 чал. За першае паўгодзьдзе 1932 г.—11.206.300 чал. супроць пляну 10.630 тыс. чал. За ўвесь кароткі час існаваньня на Менскім трамваі праехала 40 млн. чал. На кожную душу ўсяго гарадзкога насельніцтва ў сярэднім падае 200 паездак.

Гэтыя скромныя лічбы зьяўляюцца сьмяротным прысудам для апартуністаў і малавераў, якія зрывалі будаўніцтва Менскага трамваю.

12 жніўня г. г. уключана новая, пятая лінія. Трамвай пайшоў на Ляхаўку. Гарадзкая жалезная дарога перасекла Ляхаўку, раней забітую, бедную, цёмную, п'яную і забруджаную акраіну. Гэта яркі факт нашай новай перамогі, факт вялікай гаспадарчай і палітычнай сілы

Недалёка ад Ляхаўкі, зараз-жа за пераездам, да рэвалюцыі стаялі тры вялікія карчмы. Гэта прыгарадная ваколіца так і звалася: Тры карчмы. На самай Ляхаўцы зьмяшчаўся цэнтральны гарэлачны склеп, галоўная манаполька. І Тры карчмы і вінны склеп з вялікімі цамэнтнымі засекамі былі сынонімам для п'янай Ляхаўкі.

Сёньня гэтага нічога няма. Тры карчмы адкінуты ў прошласьць. На іх месцы раскінуўся рабочы пасёлак „Камінтэрн", Ляхаўка стала горадам, гордасьцю Менску. На ёй вырасьлі два новых чырвонасьцяжных заводы „Бальшавік" і імя Варашылава. На ёй пабудавана многа новых будынкаў. Пушчаны трамвай яшчэ больш наблізіў пралетарскую Ляхаўку да цэнтру сталіцы, ператварыў ранейшую п'яную ваколіцу ў адну з лепшых вуліц гораду.

Гісторыя Ляхаўкі — паказальная гісторыя будаўніцтва і росту ўсяго Менску. Камароўка ператворана ў цэнтр здаровага вясельля і культурнага адпачынку. Стадыён. Першая ўсебеларуская выстаўка. Парк культуры. Вучэбны камбінат.



Менск. Вугал Савецкай і Нова-Маскоўскай у 1900 г. На здымку Менская конка

Паліклініка. Дом друку. Вось што за 3—4 гады створана рабочымі рукамі на Камароўскіх пустырах. У бліжэйшыя гады тут будзе збудавана адна з прыгажэйшых новага Менску—дварэц Камуністычнага Унівэрсытэту.

Расьце Старажоўка. Хутка трамвай пойдзе на Серабранку і на Тучынку—да цагельных заводаў, наблізіць і гэтыя акраіны да цэнтру гораду. У другую пяцігодку Менск будзе мець 108 трамвайных вагонаў.

Мы кожны дзень расьцем і гэты рост стаў для нас простай, звычайнай справай. У канцы па Савецкай, каля чыгуначнага мосту, яшчэ зусім нядаўна былі старыя сады і разьбітыя местачковыя хібаркі. Сёньня тут—5 карпусоў Унівэрсытэцкага гарадку. Вырасьлі сьцены самага вялікага і самага прыгожага будынку ў Менску—Дому Ўраду.

Яшчэ зусім нядаўна, па Маскоўскай вуліцы ня было ніводнага каменнага дому. Цяпер там пабудаваны аграмадзіны—дамы ў 76 і 112 кватэр, якія заселены пераважна рабочымі сем'ямі.

Падгорную вуліцу з прыкрасьцю абміналі пешаходы, аб'яжджалі падводы. Па ёй, разьбітай і гарыстай, толькі лянiва грукацелі ламавікі. Цяпер вуліца К. Маркса ператворана ў прыгожую, забрукаваную клінкарам, вуліцу.



Новы Менск. Унівэрсытэцкі гарадок

Да дому Белкамунбанку па Ленінскай і К. Маркса, да дому ЦК партыі, да красуні—дзяржаўнай бібліятэкі, да раду другіх вяліканаў гораду мы прывыклі, нібы яны стаяць ужо сотні год.

У другой пяцігодцы камунальнае будаўніцтва новага Менску разгорнецца яшчэ шырэй і глыбей. Ужо будуецца новы гарадзкі дзяржаўны тэатр, дом—вялікан трэстаў, дом інжынэрна-тэхнічных работнікаў, дом Пісьменьнікаў на 50 кватэр, новыя рабочыя пасёлкі.

Мы ўзялі толькі паасобныя, больш яркія факты росту Менску за апошнія гады. Мы ня можам даць усіх вестак пра шпаркі рост дабрабыту сталіцы. А цікава і карысна было-б падлічыць, колькі за час рэвалюцыі разбурана гнілых хібарак і колькі пабудавана на іх месцы новых сьветлых каменіц, колькі рабочых сем'яў пераведзены з мокрых сутарэньняў у новыя кватэры... Гэтага на жаль ня ведае і Менскі Гарсавет, хоць у яго ёсьць і аддзелы камунальнай гаспадаркі ўлік пляніваньня.

Мы расьцем шпаркімі тэмпамі. Нашы патрэбнасьці растуць яшчэ больш хутчэй і абганяюць наша будаўніцтва. Горад адчувае вялікую патрэбу ў кватэрах, хоць за адзін толькі 1930 г. пабудавана 25 тыс. кв. м. жыльлёвай плошчы. За апошнія два гады электрастанцыя пашырылася амаль у 3 разы і ўсё-ж горад адчувае востры недахоп электраэнэргіі. Гораду не хапае вады, новых трамвайных ліній, пральняў, лазьняў, клюбаў і сталовых. І ўсё гэта мы будуем.

Перад Менскам, сталічным горадам вялікага Саюзу, шчасьлівая і сьветлая будучыня. Яшчэ адна пяцігодка, яшчэ адзін гістарычны пераход і горад на рубяжы стане перадавым, узорным горадам Савецкага Саюзу.



Новы Менск. Надбудова дамоў на Савецкай і трамвай

**А. С—ка**

# БЕЛАРУСКАЯ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА ЗА 15 ГОД

Зрабіць агляд беларускай мастацкай літаратуры за 15 год сацыялістычнага будаўніцтва—гэта значыць у пэўным пляне падсумаваць дасягненьні рабочае клясы і працоўных сялянскіх мас Савецкага саюзу ў абсягу стварэньня новых форм грамадзкага ладу, новых узаемадачыненьняў паміж людзьмі, новага мастацкага асэнсаваньня рэчаіснасьці.

Зрабіць агляд беларускай мастацкай літаратуры за 15 год яе разьвіцьця—гэта значыць на прыкладзе самой гэтай літаратуры паказаць нацыянальным меншасьцям усяго сьвету правільнасьць вырашэньня партыяй рабочае клясы нацыянальнага пытаньня, якое яшчэ і па сёняшні дзень становіць сабою прадмет „глыбокадумных“ разважаньняў, для шматлікіх буржуазных пісак тыпу Отто Бауэра і К-о.

Нарэшце, зрабіць агляд беларускай мастацкай літаратуры за 15 год пралетарскае дзяржавы—гэта значыць паказаць рабочай клясе і працоўным масам капіталістычных краін на тыя неабмежаваныя магчымасьці ў абсягу выяўленьня іх творчых здольнасьцяй ва ўсіх плянах, што можа адчыніць перад імі улада рабочае клясы, якая зьнішчае сацыяльнае і нацыянальнае прыгнечаньне.

Менавіта з такога пункту гледжаньня трэба падыходзіць да агляду творчых дасягненьняў пралетарыяту ў галіне мастацкай літаратуры (мастацтва наогул) на пярэдадні 15 гадавіны Кастрычніка. Бо на прыкладзе Савецкай Беларусі (як і ўсіх іншых нацыянальных рэспублік) пленныя вынікі Кастрычніцкай рэвалюцыі ва ўсіх галінах будаўніцтва (культурнага—у тым ліку) набываюць асаблівую яскравасьць; становяць лепшы доказ пладатворнасьці тэорыі Маркса-Леніна ў стасунках і сацыяльным і нацыянальным; паказваюць правільнасьць ажыцьцяўленьня гэтае тэорыі партыяй рабочае клясы, партыяй Леніна.

Што станавіла сабою Беларусь—краіна з шматмільённым працоўным насельніцтвам—да Кастрычніцкай рэволюцыі?

„Западно-русский край“, як называлі яе старыя гісторыкі ды географы—юрыдычна, і калёнію памешчыцка-царскай імпэрыі—фактычна.

У адпаведнасьці з гэтым, працоўныя масы яе на працягу некалькіх стагодзьдзяў былі аб'ектам вар'яцкіх зьдзекаў, зьняваг і дзікай, нялюдзкай фэўдальна-прыгоньніцкай і капіталістычнай эксплёатацыі іх сацыяльна і нацыянальна пануючымі клясамі на чале з царскім самаўладзтвам. У сэнсе магчымасьці для працоўных мас выявіць свае творчыя здольнасьці хаця бы ў якім небудзь кірунку іх бацькаўшчына у мінулым нагадавала сабою ціхі і страшны могільнік чалавечай мысьлі і волі. Нагадавала жудасны астрог, у якім надзеі і парываньні да волі, вера ў лепшую будучыню, думы аб жыцьці і само жыцьцё гвалтоўна зьнішчаліся ў самым сваім зародку, а адзінокія галасы лепшых прадстаўнікоў абяздоленых мільёнаў доўгі час гучэлі безнадзейна—сумна, балюча і гаротна—шгасьліва, як пахавальны звон...

Таму зусім зразумела, што такая рэакцыйна-чорнасоценная, гнілая атмасфэра сацыяльна-грамадзкага ладу прыдушвала разьвіцьцё і рост дакастрычніцкай мастацкай літаратуры сацыяльна і нацыянальна прыгнечаных працоўных мас. Бо адначасна з перашкодамі вольнаму разьвіцьцю яе ў сэнсе колькасным, такая атмасфэра доўгі час абумоўлівала сабою і настраёвасьць ды зьмест гэтай літаратуры. А ў зьвязку з такой акалічнасьцю, яна, поруч з энэргічнымі і часам магутнымі протэстамі супроць нялюдзкіх умоў жыцьця, не пазбаўлена ў даволі значнай ступені і безнадзейнага суму, скаргаў, гора і сьлёз.

Досыць прыгадаць хоць-бы сабе паэзію Янкі Купалы ці Якуба Коласа—каб пераканацца ў гэтым.

Але менавіта з тае прычыны, што ўмовы падняволенага жыцьця і бязьлітаснай эксплёатацыі беларускіх працоўных мас да Кастрычніцкай рэволюцыі не давалі гэтым масам магчымасьці ў дастатковай ступені выявіць іх творчыя здольнасьці ў справе стварэньня свайго мастацтва і мастацкай літаратуры,—менавіта з гэтае прычыны асабліва яскрава паўстаюць нашы дасягненьні ў гэтай галіне за 15 год працы ва ўмовах пралетарскай дыктатуры. Бо на сёняшні дзень ніхто, апрача нашых клясавых ворагаў, нямowа адмаўляць таго факту, што пралетарыят і працоўныя масы Беларусі пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, стварылі і твораць сваю мастацкую літаратуру, якая ва ўсіх варунках становіць сабою новы вышэйшы этап у разьвіцьці сьвядомасьці беларускіх працоўных мас, што раней шмат кім разглядаліся як някультурныя і нявартыя ўвагі жыхары адсталай царскай правінцыі. Яны маюць цэлы рад сваіх паэтаў і пісьменьнікаў, якіх добра ведаюць, чытаюць і вывучаюць ня толькі ў Беларусі, але і па-за межамі яе.

Напярэдадні 15 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі пралетарыят і працоўныя масы Беларусі на сэктары мастацкай літаратуры маюць у сваіх радох Міхася Чарота, паэтычная творчасьць якога зьяўляецца магутнае мастацкае сілы паэмай, што адлюстроўвае з аднолькавай сілай жыцьцё і барацьбу мільённых працоўных мас Беларусі і на першых барыкадах Кастрычніка, і на рыштаваньнях сацыялістычнага будаўніцтва.

Маюць Андрэя Александровіча, паэзія якога зьяўляецца мастацкім гімнам посьпехам пралетарыяту і на ўсіх франтох будаўніцтва таго новага, імя якому сацыялізм.

Маюць Платона Галавача, мастацкая творчасьць якога становіць сабою глыбокі мастацкі сынтэз дум і жаданьняў



**Яўрэйскі пісьменьнік т. Бэргельсон у рэдакцыі „Чырвонай Беларусі“, сярод беларускіх і яўрэйскіх пісьменьнікаў. Зьлева направа сядзяць: т.т. Тэйф, Кацовіч, Мурашка, Бэргельсон, Хведаровіч. Другі рад: Шарахоўскі, Аляхновіч, Скрыган, Аксольрод, Таўбін. Зьлева асобна т. Бэргельсон**

веры і надзей ды творчай працы таго, хто, жывучы раней у вечным смутку, тузе вечнай і роспачы, зараз заяўляе аб сваім праве на сьветлае жыцьцё, творыць гэта жыцьцё, сьмела ідзе да бясклясавага грамадзтва.

Маюць Кузьму Чорнага, Крапіву, а з больш маладога пакаленьня—таленавітых паэтаў і пісьменьнікаў: Пятруся Броўку, Міколу Хведаровіча, Пятруся Глебку, С. Баранавых, Б. Мікуліча, Янку Скрыгана і цэлы рад іншых.

Апрача таго, у выніку барацьбы з контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і ўсяляк мі хістаньнямі сярод некаторых нашых паэтаў і пісьменьнікаў,—барацьбы, у якой мужала і крэпла пралетарская мастацкая літаратура,—на сёняшні дзень мы маем рашучы паварот да пралетарыяту такіх паэтаў і пісьменьнікаў як Янка Купала, Якуб Колас і іншых т зв. „нашаніўцаў". Тоё-ж самае трэба сказаць і наконт Міхася Зарэцкага, Максіма Лужаніна.

Нарэшце нельга абмінуць, як вялізарнага дасягненьня пралетарыяту за 15 год, і шырока разгорнутага ўдарніцкага літаратурнага руху, што захапіўшы шырокія колы нашай працоўнай моладзі, дае падставы для выяўленьня новых іменаў, новых маладых паэтаў і пісьменьнікаў. Многія з іх зараз друкуюцца ўжо ў нашых газэтах і часопісах, маюць свае зборнікі (калектыўныя), падаюць вялікія надзеі, хоць і патрабуюць упартай выхаваўчай работы з імі.

На далейшае перад нашай літаратурай стаяць яшчэ больш складаныя задачы. Гэтыя задачы вызначаюцца палітычнымі задачамі на 2-ю пяцігодку, што выразна пастаўлены і сфармуляваны ў пастановах XVII партыйнай канфэрэнцыі. Канкрэтна яны прадпалагаюць неабходнасьць завяршэньня пабудовы сацыялістычнай гаспадаркі ў СССР. А ў зьвязку з гэтым патрабуюць зьнішчэньня перажыткаў „капіталізму ў эканоміцы, і ў сьвядомасьці людзей",ператварэньня „усяго працоўнага насельніцтва краіны ў актыўных і сьвядомых будаўнікоў бясклясавага грамадзтва".

У вырашэньні гэтых задач мастацкая літаратура можа і абавязкова павінна адыгрываць не апошнюю ролю. Таму яе аб'ектам у далейшым павінна быць наша сацыялістычная гаспадарка і на яе фоне—чалавек, які становіць ці, праўдзівей, станавіў-бы сабою ідэал новага чалавека ў пляне ўзаемадачыненьняў з роўнымі яму людзьмі, ідэал чалавека, пазбаўленага усякай эксплёатацыі.

Але выканаць гэты абавязак нашы паэты і пісьменьнікі змогуць толькі тады, калі кожны з іх і сам узьнімецца на высокі ідэёвы ўзровень і будзе становіць сабою прататып, калі можна т. ск., вольнага чалавека будучыні. Гэта-ж абавязвае кожнага нашага паэта і пісьменьніка да ўпартай працы над сабою, над падвышэньнем свайго ідэёва-грамадзкага і тэорэтыка-культурнага ўзроўню. Бо бяз гэтых прадумаў ня можа быць гутаркі пра пленную працу ў галіне стварэньня мастацкай літаратуры, як сродка выхаваньня шырокіх працоўных мас праз глыбокае і ўсебаковае адлюстраваньне рэчаіснасьці. У гэтым сэнсе кожны з працаўнікоў на сэктары мастацтва і літаратуры павінен добра памятаць словы Ул. Іл. Леніна наконт неабходнасьці вывучэньня і сталага веданьня культурнага напластаваньня вякоў для стварэньня культуры—у даным выпадку літаратуры—будучага.

Не зважаючы на вялізарныя дасягненьні, наша мастацкая літаратура не заўсёды (ва ўсякім разе ня ўся) адпавядала запросам культурна-ўзрослых працоўных чытацкіх колаў. Часта, замест глыбокага творчага мастацкага адлюстраваньня рэчаіснасьці, давала чытачу эмпірычную фактаграфію працэсаў і зьяў гэтай рэчаіснасьці, бяз шырокіх абагульняючых ідэй, падносячы такую фактаграфію ў расплывучата-аморфнай форме.

Адзначаючы гэта як недахоп, мы спадзяемся, аднак, што ў далейшым наша мастацкая літаратура пазбавіцца яго. Бо няма сумненьня ў тым, што яна стаіць на жыцьцёвым і правільным шляху. Такая ўпэўненасьць законамерна і мае падставу тым больш, што апошняя пастанова ЦК УсеКП(б) пра перабудову работы нашых літаратурных арганізацый адчыняе перад паэтамі і пісьменьнікамі шырокія магчымасьці творчай працы і вучобы, складае найлепшыя ўмовы для ўсебаковай дзейнасьці і вызначае новы этап у стварэньні нашай мастацкай літаратуры, мяркуючы перш за ўсё кансалідацыю нашых мастацкіх сіл. М навіта ў адпаведнасьці з гэтай пастановай і на аснове яе наша мастацкая літаратура выканае тыя задачы, што стаяць зараз перад ёю і дасьць літаратурна-мастацкія ўзоры сапраўды вартыя нашай гераічнай сацыялістычнай эпохі.

ЯЎГЕН ЖУК

# ДНЕПРАДЭС

Бурапеніць вада пераможанага Дняпра. Як дзікі, разьюшаны зьвер, шуміць яна, падаючы з грэбня плаціны, дробныя пырскі, нібы туман, далёка ляцяць на бераг ракі. І здаецца ў гэтым шуме захована дзікая злосьць і нездавальненьне тым, што бэтон затрымаў яе бурлівы шлях.

Бэтонная плаціна 766 мэтраў удаўжкі, 62 мэтры вышынёю над узроўнем ракі, прымусіла Дняпро круціць турбіны гідрастанцыі. Няма плацін у сьвеце, роўных Дняпроўскай!

Сорак сем бэтонных быкоў, на адлегласьці 13 мэтраў адзін ад другога, дугою перарэзалі бурлівы Дняпро, угрызьліся ў глыбокае дно яго і паднялі ўзровень вады на 37 мэтраў. Самыя буйныя і высокія дняпроўскія парогі—Ненасыцец, Кадацкі, Вольны, Лоханьскі, Лішні, Сурскі і шмат другіх глыбока, на чатыры мэтры, засталіся пад сіняй паверхняй прыгожага Дняпра.

Успаміны толькі засталіся і пра сяло Кічкас, якое заліта зараз вадою.

А на правым беразе Дняпра, у канцы плаціны, знаходзіцца самая магутная ў сьвеце гідраэлектрастанцыя. Дзевяць турбін, па 90 т. конскіх сіл кожная, будуць даваць у год каля 3 мільярдаў кілёват-гадзін электрычнай энэргіі. Нават у Амэрыцы—краіне найбольш магутных электрастанцый—няма гідрастанцыі, роўнай Дняпроўскай. Ніагарская гідрастанцыя мае ўсяго 430 тысяч конскіх сіл, Тэнэсі—612 тысяч, Коновінга—601 тысячу, а гідрастанцыя на савецкім Дняпры мае 810 тысяч конскіх сіл. Адна турбіна Днепрагэсу раўняецца ўсяму Волхаўбуду. Пяць турбін ужо ўстаноўлена.

Супроць гідрастанцыі, на левым беразе закутага ў бэтон Дняпра, у скалах, пракладзен шлюз (пабудова, якая дае магчымасьць пераводзіць судны з верхняй часткі ракі ў ніжнюю і назад) і каналы ў кілёмэтр даўжынёю. Штогодна мільёны тон украінскага хлеба, лесу, прадукцыі заводаў Днепракамбінату будуць праходзіць на суднах праз гэты шлюз.

Адначасова з пабудовай плаціны, гідрастанцыі і шлюзу, вырас і будуецца новы сацыялістычны горад—Чырвонае Запарожжа.

На месцы дзікага стэпу, дзе яшчэ 3—4 гады таму назад расла трава, вырасьлі жалеза-бэтонныя карпусы. Дамы-камуны, сталоўкі, клюбы, школы, інстытуты, паркі і сады ўжо і сёньня сьведчаць аб ударных тэмпах будаўніцтва краіны саветаў.

Няма больш старога Запарожжа...

Увечары Днепрабуд заліты агнямі. Тысячы яркіх лямпачак Ільліча гарацы, пераліваюцца і асьвятляюць Дняпро, плаціну, горад, будынкі, сады. Далёка сьвецяць гэтыя агні, далёка відаць залітае электрыкай слова „Дніпрагэс", што на будынку галоўнага кіраўніцтва, блішчаць пражэктары на цёмна-сінім экране неба.

Якое хараство, якая радасьць перамогі!..

А сярод гэтай безьлічы сьвятла заліты электрычнымі агнямі партрэты-постаці правадыроў—Маркса—Леніна—Сталіна. І чырвонымі літарамі напісан лёзунг:

„Наша тэорыя—Маркс—Ленін—Сталін, наша практыка—Днепрагэс".

* * *

У гераічнай і ўпартай барацьбе здабыты перамогі на Дняпры. Жалезная рука партыі Леніна сьпіхала са свайго шляху апартуністаў усіх масьцей, наносіла бязьлітасны ўдар ныцікам і малаверам і пераможна вяла краіну да яркіх агней, што запалены на Дняпры.

Пяць год барацьбы за стварэньне электрычнага сэрца Савецкай Украіны былі гадамі геройства, славы і адвагі.

У год вайны, інтэрвэнцыі, разбурэньня,
тысяча дзевяцьсот дваццаты год,
Савецкі ўрад прыняў рашэньне—
Закуць бурлівы Дняпро ў бэтон.

На паседжаньні ВСНГ СССР быў прынят праэкт праф. І. Г. Аляксандрава аб пабудове на Дняпры гідрастанцыі, плаціны і шлюзу.

У 1927 год, у дзень дзесяцігодзьдзя Вялікага Кастрычніка быў урачыста закладзен Днепрабуд.

З таго часу на берагох бурлівага Дняпра пачалася барацьба.

У холад і дождж, у лютыя зімовыя марозы на ўсіх вучастках будаўніцтва ішло ўдарнае змаганьне.

1930 год быў годам сусьветных рэкордаў. Замест 427 тыс.


Т. т. Калінін, Орджанікідзэ і начальнік аб'яднанага будаўніцтва Днепра т. Вінтэр ідуць на мітынг па адчыненьні Днепрадэсу


Від на мітынг з плаціны


Дэлегацыя ўдарнікаў калгасьнікаў БССР на адчыненьні Днепрадэсу

кубамэтраў бэтону калектыў Днепрабуду высунуў сустрэчны 500 тысяч, а выканана 518 тыс. кубамэтраў.

І нездарма ў сваім адкрытым лісьце да ўсіх рабочых, калгасьнікаў, спэцыялістаў і працоўных аднаасобных сялян 30-тысячны калектыў Днепрабуду і Днепракамбінату, напярэдадні ўрачыстага пуску пісаў:

...„Мы збудавалі станцыю і далі электраток на два гады раней супроць амэрыканскіх меркаваньняў, на шэсьць месяцаў раней супроць нашых плянавых намётак.

Пройдуць гады, вялікая Савецкая краіна пабудуе яшчэ больш магутныя станцыі на Волзе, на Ангары, але ў памяці працоўнага народу доўга будзе жыць вялікая і прыгожая паэма пабудовы найбольшай у сьвеце гідрастанцыі на Дняпры ў час першай пяцігодкі“.

І далей, ставячы пытаньне, чаму атрыманы такія посьпехі ў будаўніцтве гідрастанцыі, калектыў Днепрабуду дае адказ:

„Заўжды на перадавых пазіцыях, заўжды першымі ў найцяжкіх мясцох, камуністы асабістым гераічным прыкладам вялі масы на перамаганьне вялікіх цяжкасьцяй гіганцкага будаўніцтва... На базе цьвёрдага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі і шасьці ўмоў т. Сталіна, партыйная арганізацыя Днепрабуду была арганізатарам і кіраўніком сацыялістычных мэтадаў працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва“.

„Няма такіх крэпасьцей, якіх бальшавікі не маглі-б узяць“ (Сталін).

* * *

10 кастрычніка 1932 году адбыўся ўрачысты пуск Дняпроўскай гідрастанцыі. З усіх канцоў вялікай краіны пралетарскай дыктатуры: з Ленінграду—Данбасу, з Кузьнецкбуду—Савецкай Беларусі, з Масквы—Паваложжа, адусюль—былі дэлегацыі лепшых ударнікаў—рабочых, калгасьнікаў і спэцыялістаў.

Былі і замежныя рабочыя і спэцыялісты: з Амэрыкі, Францыі, Нямеччыны, Турцыі і інш. краін.

Вакол 3-х трыбун, сярод фантанаў, на правым беразе Дняпра, каля вялікай плаціны Дняпроўскай гідрастанцыі, сабралося 10 тысяч удзельнікаў мітынгу.

Ад імя ўраду СССР будаўнікоў Днепрабуду вітаў т. Калінін, ад ЦК УсеКП(б)—т. Арджанікідзе. Выступалі з прамовамі: рэвалюцыйны францускі пісьменьнік Анры Барбюс, старшыня СНК УССР т. Чубар і шмат другіх.

У гэты дзень 73 лепшыя ўдарнікі Днепрабуду былі ўзнагароджаны ордэнамі Леніна і працоўнага Чырвонага сьцягу. Сярод узнагароджаных 6 замежных спэцыялістаў на чале з кіраўніком амэрыканскай кансультацыі Купэрам.

Дняпроўская гідрастанцыя ўступіла ў строй пад іменем гідрастанцыі Леніна.

* * *

Днепрабуд—гэта крыніца таннай электрычнай энэргіі, якая перавышае энэргію ўсіх электрычных станцый дарэвалюцыйнай царскай Расіі.

Днепрабуд—гэта сродак ператварэньня вялізарных засушлівых дняпроўскіх стэпаў у квітнеючыя буйныя сацыялістычныя гаспадаркі,

Днепрабуд—гэта адваяваны краінай саветаў і пастаўлены на службу сацыялізму вялікі водны шлях з Балтыцкага ў Чорнае мора.

Вось тры галоўнейшых праблемы, якія вырашае будаўніцтва на бурлівым, глыбокім Дняпры гідраэлектрастанцыі.

Электрычная кроў пацякла па правадох з правага берагу Дняпра. Але на левым—ударнае змаганьне за стварэньне новых спажыўцоў энэргіі працягваецца.

Дняпроўскі камбінат, які будуецца на левым беразе Дняпра, будзе буйнейшым спажыўцом энэргіі Днепрагэсу. Алюмініевы камбінат, мэталюргічны, завод фэрасплаваў, кокса-хімічны камбінат, рамонтна-мэханічны завод, шамотны, жужэля-цэмантны і жужэлябэтонны заводы—вось склад сям'і Дняпроўскага камбінату.

Сорак пяць тысяч тон алюмінія ў год, 1 млн. 875 тыс. штогодна чугуна, 700—900 тыс. тон сталі, сотні тысяч тон фэрасплаваў, патрэбных для мэталюргічнай прамысловасьці, у недалёкім будучым дадуць заводы Днепракамбінату.

Ня менш важнае значэньне мае Днепрагэс і для сельскай гаспадаркі. Энэргія яе будзе пастаўлена на службу штучнаму абвадненьню дняпроўскіх стэпаў. Электрычныя насосы падымуць падгрунтовую ваду і на вялікіх плошчах сухмянай глебы Украіны будзе расьці бавоўна, тытун, цукровыя буракі, соя і шмат іншых каштоўных культур.

А ўжо і гэтай восеньню ў калгасах на высьпе Хорціца, што недалёка ад Днепрагэсу, праводзілася зяблівае ворыва электраплугам.

Так, савецкая краіна пасьпяхова ажыцьцяўляе бясьсьмертныя словы свайго правадыра Леніна: „Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ёсьць камунізм“.

* * *

Многа год таму назад пісьменьнік Гогаль пісаў пра Дняпро: „...ніхто, апрача сонца і блакітнага неба, не глядзіць у яго. ...Рэдкая птушка даляціць да сярэдзіны Дняпра“.

Сёньня Дняпро ўжо ня той. Гераічны пралетарыят СССР, пад кіраўніцтвам свае бальшавіцкай партыі, ня толькі дайшоў да сярэдзіны Дняпра, ён закуў яго ў бэтон, прымусіў бурлівую ваду круціць турбіны, глыбока, над сіняй люстрай яго схаваў парогі і запаліў вялікія агні сацыялізму.

Прыгожы Дняпро каля вялікай плаціны!

# КАСТРЫЧНІЦКАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

## Ў СТРОЙ ГІГАНТАЎ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ІНДУСТРЫІ УСТУПІЛА НАЙВЯЛІКШАЯ Ў СЬВЕЦЕ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫЯ

# ДНЕПРАДЭС



Частка плаціны з левага боку Дняпра. Наверсе канструкцыі і краны для падняцьця і апусканьня заставак



Адкрытая падстанцыя каля будынку ГЭС



Адна з вуліц новага сацыялістычнага гораду Новага Запарожжа



Алея ўдарнікаў у Новым Запарожжы



Перадача сьцягу будаўнікам Днепрадэсу ад Маскоўскага пралетарыяту



Агульны выгляд Дняпроўскай плаціны



БДТ-2 З пастаноўкі „Напор“

ІЛЬЛЯ ГУРСКІ

# ТЭАТРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА БССР ЗА 15 ГОД

„Перыяд дыктатуры пралетарыяту і будаўніцтва сацыялізму ў СССР ёсьць перыяд росквіту нацыянальных культур сацыялістычных па зьмесьце і нацыянальных па форме“.

СТАЛІН

У той час, калі ўва ўсіх капіталістычных краінах пануе глыбокі эканамічны крызіс, які азначае сабою загніваньне буржуазнае культуры, што: „прыводзіць буржуазную філёзофію, навуку, мастацтва да ідэйнага абнішчаньня, містыкі, да поўнага духоўнага выраджэньня“, у гэты самы час у БССР, як і ва ўсім Савецкім саюзе, пасьпяхова будуецца сацыялізм, што дае неабмежаваныя мажлівасьці ў справе разьвіцьця культуры, нацыянальнае па форме і сацыялістычнае па свайму зьместу.

Тыя вялізарнейшыя посьпехі, з якімі мы прыходзім да XV гадавіны Кастрычніцкае рэвалюцыі, дасягнуты на аснове правядзеньня генэральнае лініі партыі ў барацьбе з буржуазнай тэорыяй трацкізму аб немагчымасьці пабудовы сацыялізму ў аднэй краіне, у барацьбе з правым апартунізмам, які імкнуўся сарваць палітыку сацыялістычнага наступленьня і фактычна капітуляваў перад кулацтвам і буржуазнымі элемэнтамі, „левым“ апартунізмам і прымірэнцтвам да іх.

Праводзячы на справе ленінскую нацыянальную палітыку, пралетарыят БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б стварае нацыянальную культуру—навуку, літаратуру, мастацтва—партыйную навуку, літаратуру і мастацтва, якая дапамагала выкананьню канкрэтных задач сацыялістычнага будаўніцтва, якая дапамагла-б пралетарыяту ў інтарэсах яго штодзеннай барацьбы за сацыялізм, была-б вострай зброяй у барацьбе з клясава-варожай ідэалёгіяй. Мастацтва павінна быць партыйным, яно павінна быць сродкам, для фармаваньня чоткага клясавага сьветапогляду, камуністычнага выхаваньня мас, арганізацыі разумнага культурнага адпачынку працоўных.

Вядучы бязьлітасную барацьбу з вялікадзяржаўнымі шавіністамі, якія разглядалі беларускі тэатр, як: „расійскі тэатр на беларускім нарэччы“, як тэатр правінцыяльны, ня здольны стварать каштоўнасьцяй, адначасна з беларускімі контррэвалюцыйнымі нацыянал-дэмакратамі, якія імкнуліся выкарыстаць тэатр супроць дыктатуры пралетарыяту, рабочая кляса БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пасьпяхова будуе нацыянальны тэатр, які здолее стварыць сапраўды пралетарскае тэатральнае мастацтва.

Колькасныя паказчыкі—17 тэатраў (БДТ-1, БДТ-2, БДТ-3, ЯДТ БССР, БелдзяржТРАМ, Яўр. ТРАМ, польскі тэатр, ЯДВТ, тэатр ЦСПСБ, тэатр Чырвонай арміі, 2 калгасных тэатры, саўгасны тэатр, расійскі тэатр, тэатр Музкамэдыі, дзіцячы тэатр, студыя опэры і балету) у той час, як да Кастрычніцкае рэвалюцыі ня было ні аднаго. Сюды не ўваходзяць непрофэсыяналізаваныя ТРАМ'ы (Віцебск, Гомель, Полацк, Орша, Барысаў). Акрамя гэтага ў БССР каля 900 самадзейных мастацкіх гурткоў.

Асабліва, трэба адзначыць тое, што ў БССР, поруч з вялізарнейшым ростам беларускага тэатральнага мастацтва, расьце і разьвіваецца Яўрэйскі і Польскі тэатр. Як адзін, гэтак і другі маюць добра абсталяваныя будынкі, такім чынам падведзена база для іх работы.

Калі-ж паглядзець, што робіцца ў сэнсе нацыянальнай культуры, толькі за некалькі кілёмэтраў ад Менску, у фашыстаўскай панскай Польшчы, дык проста жах бярэ. Там зачыняюцца школы, не даецца ніякай мажлівасьці ў справе разьвіцьця культуры.

Якасныя паказчыкі—асноўныя беларускія тэатры (БДТ-1, БДТ-2, ЯДТ БССР), як высокаякасныя мастацкія арганізмы, вядомы ня толькі ў БССР, але і па ўсім Савецкім саюзе. Падамо некалькі вытрымак з саюзнага друку, якія характарызуюць работу паасобных тэатраў, яго дасягненьні:

„...Журы канстатуе, што 1-шы Беларускі Дзяржаўны



Яўрэйскі вандроўны. З паст. „Ніт гэдайгэт“.



БДТ-1 з паст. „Міжбур'е“.

# КАСТРЫЧНІЦКАЕ РЭВАЛЮЦЫІ

тэатр уяўляе сабою яскравы доказ бурнага росту беларускай нацыянальнай культуры, здолеўшай толькі пасьля Кастрычніцкае рэвалюцыі атрымаць магчымасьць разьвіцьця і бясспрэчна стымулюючы рост нацыянальнае сьвядомасьці беларускага народу за межамі СССР" (з паст. журы алімпіяды),

„Такі выбар рэпэртуару і яго сцэнічнае выяўленьне стварылі тэатру акрэсьлены ідэалёгічны твар" (з паст. журы алімпіяды).

БДТ-1, на першай усесаюзнай алімпіядзе выступаў з п'есамі „Гута" і „Міжбур'е".

У час гастроляў БДТ-2, у індустрыяльных цэнтрах СССР— Маскве, Ленінградзе, пры абгаварэньні ў Камакадэміі работы і шляхоў разьвіцьця БДТ-2, выступаючыя прамоўцы адзначылі:

„... Яскравую рэвалюцыйнасьць маладога тэатру, які шчыльна падыходзіць да непасрэднага стварэньня беларускага пралетарскага мастацтва".

БДТ-2, у час падарожжа ў Маскву і Ленінград выступае з п'есамі „Качагары" і „На прадвесьні". Газэта „Советское искусство" ацэньваючы работу БДТ-2, піша:

„...Такім чынам яму ўсяго пяты год. Тэрмін сапраўды дзіцячы. І прыходзіцца дзівіцца, як пры адсутнасьці тэатральнай культуры ў мінулым, а значыцца і пры адсутнасьці акторскіх, рэжысэрскіх і іншых кадраў тэатр здолеў дасягнуць тых бязумоўна вялікіх вынікаў, якія ён прадэманстраваў нам у п'есе „Качагары".

У разьвіцьці тэатральнага мастацтва БССР, Яўрэйскі Дзяржаўны тэатр мае вялізарнейшае значэньне. Існаваньне ЯДТ БССР зьяўляецца фактарам вялікага палітычнага і культурнага значэньня.

Газэта „Известия" разглядаючы пастаноўкі ЯДТ БССР „Ботвін" і „Авечую крыніцу", піша:

„Першыя два спэктаклі, паказаныя ў Маскве Дзяржаўным Яўрэйскім тэатрам Беларусі, даюць усе падставы казаць аб ім, як аб перадавым савецкім тэатры, інтэрнацыянальным па зьместу і нацыянальным па форме, тэатры, які імкнецца свой „зьмест" і сваю „форму" злучыць у адно цэлае, якім павінна быць поўнацэнная зьява мастацтва".

З усіх тых шматлікіх водзываў, якія зьмяшчаліся ў саюзным друку аб тэатрах БССР (БДТ-1, БДТ-2 і ЯДТ БССР), мы прывялі толькі некалькі вытрымак, якія характарызуюць іх работу, якія сьведчаць аб буйным росьце мастацтва БССР.

Створаныя тэатрамі БССР, такія паказы, як: „Гута", „Мост", „Міжбур'е", „Качагары", „Напор", „Вясна", „Ботвін", „Лекерт", „Авечая крыніца", „Контратака" і інш., ня гледзячы на тое, што ў кожнай з гэтых п'ес маюцца тыя ці іншыя недахопы, памылкі, зьяўляюцца каштоўным укладам у справе стварэньня пралетарскага тэатральнага мастацтва.

Частка з гэтых п'ес, як „Гута", „Мост", Новы горад", перакладзены на іншыя мовы і ставяцца ў братніх савецкіх рэспубліках.



Студыя опэры і бал. З паст. „Кармэн"

За апошнія два гады маюцца пэўныя зрухі ў галіне стварэньня беларускае арыгінальнае савецкае драматургіі. Рад пісьменьнікаў напісалі п'есы і здалі тэатрам для распрацоўкі: „Бацькаўшчына" К. Чорны, „Романы Зора" Іл. Барашка (ставіць БДТ-1); „Амэрыка" і „Дзяржынцы" В. Сташэўскі (ставіць БДТ-2); „Ратуй божа", Р. Кобец і А. Вольны (ставіць БДТ-3), „Рот фронт" Б. Мікуліч (ставіць Белдзяржтрам); „Фонтан" Ул. Стэльмах (ставіць тэатр ЦСПСБ) і „Чаму-ж мне ня пець" Р. Кобец (ставіць Чырвонаармейскі тэатр). Акрамя гэтага працуюць над драматургічнымі творамі пісьменьнікі: К. Крапіва, М. Чарот, Р. Мурашка, М. Хведаровіч, Блісьцінаў і інш. А. Александровіч, П. Глебка і П. Броўка, пішуць лібрэта опэры. Я. Колас напісаў п'есу „Вайна да пабеднага канца", якую будзе ставіць БДТ-2.



Польскі вандроўны. З паст. „Формула гарэзкых"

Задачай кожнага тэатру БССР, зьяўляецца, выпрацоўка свайго мастацкага творчага профілю, які-б адрозьніваў яго ад астатніх тэатраў, а то вельмі часта, пастаноўкі ў беларускіх таатрах вельмі падобны, адна, на другую. Да гэтага часу ў нашых тэатрах, той, ці іншы рэжысэр ня меў права на экспэрымэнт. Неабходна ў далейшым весьці навукова-дасьледчую, лябораторна-экспэрымэнтальную работу ў тэатры, без чаго немажлівы рост ні аднаго з тэатраў.

Далейшы рост тэатральнага мастацтва БССР, залежыць ад таго, наколькі асноўныя творчыя кадры, акторы, рэжысэры, драматургі, кампазытары, мастакі, усьвядомяць неабходнасьць аўладаньня марксысцка-ленінскай тэорыяй, неабходнасьць цеснай і непарыўнай сувязі з практыкай сацыялістычнага будаўніцтва.

Асноўнай задачай, якая стаіць перад тэамастацтвам БССР, гэта паказаць новага чалавека, паказаць сапраўднага героя нашага часу—ударніка, з усім тым новым, што ён нясе з сабой. Паказаць яго жывым, у разьвіцьці, а не ў статыцы. Угледзь новае ў старым, у сёньняшнім заўтрашняе. Паказаць будаўніцтва сацыялізму, якое параджае новага чалавека, паказаць яго ўва ўсёй глыбіні клясавых супярэчнасьцяй.

Асноўнай праблемай, якая стаіць перад тэамастацтвам, гэта праблема стварэньня такіх твораў, у якіх-бы былі паказаны ў мастацкай форме тыя гіганцкія працэсы сацыялістычнай рэканструкцыі краіны, якія адбываюцца, як у галіне прамысловасьці, гэтак і ў галіне сельскае гаспадаркі. Паказаць вядучую ролю ўва ўсёй гэтай справе пралетарыяту і яго авангарду—камуністычнае партыі.

Праводзячы на справе ленінскую палітыку, пралетарыят БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, будуе нацыянальную культуру, літаратуру і мастацтва—нацыянальныя па форме і пралетарскія зьместам.



Яўрэйскі Дзяржаўны

СЬЦ. НОРТМАН

# ГОМАН КАРПУСОЎ

*НАРЫС*

Сьціснутая горадам і чыгункай, забуяла палыном ды крапівай, разьляглася зямля.

Разьляглася, раскінуўшы свае магутныя грудзі.

І ў дзень і ўночы па ёй гуляе вецер. То ласкавы, паціху калыша цыбукі палыну, то шалёны, імчыцца з хуткасьцю 14 мэтраў у сэкунду.

Вецер наганяе хмары, чорныя дажджлівыя, засьцілае імі неба і сонца, і тады дождж буйнымі кроплямі,—празрыстымі як крышталь, падае на зямлю. А зямля нібы ўздыхаючы п'е, набірае сілы, набракае і з яшчэ большай сілай пачынае буяць крапіва і палын.

Зямля ляжала аблогай і ніхто яе не скарыстоўваў, ніхто не стараўся зьмяніць аблічча гэтае аблогі. І толькі зрэдку яе спакой парушаўся козамі, якія вышуквалі дзятліну, ды гудкамі цягнікоў, што прабягалі праз пэўныя гадзіны, адзін за адным, на Ўсход і на Захад, па бліскучых рэйках. А за паўкілёмэтра ад гэтае аблогі пачынаўся горад.

Маленькія, пахіснуўшыяся ад старасьці хаткі, падсьлепаватымі вачыма—вакенцамі ў чатыры невялічкія шыбіны глядзелі на гэту аблогу.

А зімой, у срабрыстыя ночы бегала па аблозе воўчая гайня і падняўшы ўгору на сівенькі месяц вастраносыя морды, зацягвала сваю жудасную і цягучую песьню...

* * *

1908 год. Год чорнай рэакцыі, калі царскае самаўладства спраўляла свой крывавы баль—памінкі па рэвалюцыі 1905 г.

Над горадам, як і ўсёй краінай лунала бязьлітасная здань шыбеніц і сьмерці за маўклівымі кратамі.

У бліскучых салёнах гучэла музыка і лілося ў шклянкі шампанскае, пенілася і напамінала аб крыві, якая пралілася на брукаваныя вуліцы, каля Віленскага вагзалу, напамінала пра курлоўскі расстрэл...

Паны афіцэры ў бліскучых мундырах з аксельбантамі, паны памешчыкі, паны прадпрыемцы—уся кляса прыгнятальнікаў цешылася і ва ўнісон шклянкам зьвінелі галасы бессаромных вялікасьвецкіх прастытутак...

Музыка гучэла куды прыямней, чымся адрывістыя стрэлы рэвальвераў і вінтовак—што былі музыкай паўстаўшых рабочых.



Адна з лепшых гаспадарча-разьліковых прэміяваных брыгад дэпо Томск. Машыніст т. Глюкін і пам. машыніста т. Паўлаў

Музыка хвалявала і супакойвала і разваліўшыся ў мяккіх абітых дыванам крэслах, прыплюснуўшы вочы, ці ўзброіўшы вока маноклем сытыя і задаволеныя сабой і існуючым ладам людзі,—глядзелі на залю, дзе ў плаўным вальсу кружыліся афіцэры і дваранскія сынкі, абхапіўшы стан салённых какотак.

А ў кутку, прымайстраваўшыся каля губэрнскага прадвадзіцеля дваранства і гарадзкога галавы—з ліслівай усьмешкай на твары вёў размову пан Дорскі, які выгандлёўваў сабе аблогу...

І вось неўзабаве грабары адразалі лапатамі тлустыя лусты зямлі, дабіраліся да жоўтага пяску...

За імі прышлі муляры і падрыхтаваўшы ўсё к закладцы фундаманту сталі чакаць высокіх гасьцей на чале з гаспадаром.

Паслухмяны боскі служака—акрапіў перш'ы камень, пакладзены гаспадаром і муляры распачалі працу, ад сонца—да сонца.

А гаспадар спраўляў баль. І зноў лілося віно ў салёне, а на месцы пабудовы пот, буйны як кроплі дажджу, па твары муляроў, грабароў, чорнарабочых і цесьляроў...

І калі ўзрасьлі сьцены, пацняліся і пакрыліся жасьцяным дахам, зноў ад сонца—да сонца людзі бразгалі па жалезу малаткамі, падпілоўвалі падпілкамі,—сталі рамантаваць дробныя сельскагаспадарчыя машыны. І было іх 12 рабочых, якія;

Атрымаўшы грошы ў суботу
У карчомцы залівалі гора.
З панядзелка зноў-жа на работу
На такую, як была заўчора.

І пілікаў у карчме гармонік. Захліпаўся ў п'яным угары. І бразгалі брудныя шклянкі адна аб адну—чокаліся.

А людзі пілі. Залівалі гора, прапівалі розум, залівалі сухотнае нутро гарэлкай, каб забыцца на ўсё, на галодную і халодную сям'ю, на невялічкі заробак, на цяжкую паднявольную працу, на ўсё тое, што душыць цяжкім каменем хворыя, сухотныя грудзі, што разьядае цела, як іржа жалеза.

Такім было жыцьцё ў тым годзе, калі пабудавалі майстэрню Дорскі і К-о, каля тракту:

**Менск—Сьмілавічы**

І цягнулася яно нудна, зарастала цьвільлю, рабілася агіднай бросьней. І толькі тлеў і разгараўся агеньчык у рабочых ускраінах. Тлеў і разгараўся, каб у семнаццатым узарваць існуючы лад на паветра, каб ад гэтага ладу не пакінуць і каменя на камені, каб гэты лад разарваць на шматлікія шматкі. І каб над горадам і краінай лунаў: чырвоны акроплены рабоча-сялянскай кроўю сьцяг і воля.

* * *

Адгрымелі грымоты рэвалюцыі і грамадзянскай вайны.

Краіна пачынала будавацца. Ішоў першы год адбудаваньня разбуранай краіны.

Быў 1922 год. Год, калі яшчэ пах пораху лунаў над зямлёй, над гарадамі і вёскамі.

Год, калі яшчэ гулялі банды па рэспубліцы, залівалі вуліцы мястэчкаў і вёсак крывёю.

Цёплаю і гарачаю, якая пенілася як віно ў шклянках.

А людзі ў салдацкіх вопратках, у парваных портках і кашулях, у абутку, які выскаліў „зубы"—сьмяяўся, павесілі над разбуранай майстэрняй чырвоны сьцяг і зьбіралі інструмант па кавалачку."

Неўзабаве весела заляскаў-загаманіў па кавадле малаток,—і празрыстыя, пякучыя пырскі паляцелі ад жалеза.

Людзі рабілі падковы і цьвікі. І расплаўлены белаваты алюміні пацёк з каўша ў формы, каб застыць у халоднай зямлі і стаць гатовай прадукцыяй—лыжкамі.

І хадзілі рашпілі жвава ў руках, і сакаталі малаткі, звонкім рэхам аддаючыся пад стольлю—гэта кляпалі вулічныя ліхтары.

Майстэрня пачала зноў жыць вытворчым жыцьцём.

А пасьля працы, людзі сядзелі над плянамі, якія былі напісаны нязграбнымі літарамі на жоўтай газэтнай паперы і меркавалі, што рабіць і куды збываць.

Сядзелі людзі і вырашалі. І па вечарох весела гаманіўгармонік на ўсе лады, выводзячы частушкі:

Эх. яблычка, куды коцішся...

І ў тон пераборам галасістага гармоніка зьвінелі галасы і ногі выраблялі „рускага" і „барыню".

Прыйшлі новыя людзі і абудзілі сьцены старой і зацьвіўшай майстэрні. Прышлі новыя людзі, з новымі думкамі і па новаму загаманіла майстэрня, на якой вісела шыльда:— „Энэргія".

І гэта шыльда была такой-жа новай, як і самі людзі.

* * *

Мінула дзесяць год.

Раскінуліся пачарнелыя ад пылу і дыму карпусы заводаў.

Гулам, шастаньнем пасоў, ляскатам малаткоў аб кавадлы, грукатам колаў ваганэтак аб рэйкі вузкакалейкі сустракаюць цэхі прышоўшага на завод.

Кожнаму новаму чалавеку незнаёмаму з жыцьцём заводаў, на першы погляд здаецца, што вельмі трудна разабрацца ва ўсёй гэтай сумятні, у гэтым шуме і грукаце, які цэлы дзень вісіць над заводам.

Але прыглядзіся пільней, унікні ў кожную дробязь заводзкага, вытворчага жыцьця, у кожную маленькую справу і стане ясным увесь складаны мэханізм, у якім кожная шрубка падагнана адна да аднэй. Што ў гэтым мэханізьме ўсё наладжана, усё ідзе ўзаконеным сваясаблівым шляхам і сьпявае творчую сымфонію вялікай эпосе, бурнай, як мора ў шторм...

Вось у самым кутку сьлясарна-зборачнага цэху, прысунуўшы вярстакі да вокан, падпілоўвае, падганяе адна да другой дэталі, гаспадарча-разьліковая брыгада па зборцы сьвідравальных варштатаў.

Маладыя, у прамасьленых чорных спэцоўках, рабочыя змагаюцца на адказьнейшым фронце. Зьвіняць маладыя галасы і тонуць у шуме ад стуку малаткоў і гудзеньня матораў.

Брыгадзір – сярэдняга росту, прысадзісты з шэрымі вачыма і спушчанымі ўніз рыжымі вусамі Пагоцкі Міхась, пры дружнай самаадданай рабоце ўсёй брыгады цабіўся ад кожнага рабочага брыгады палепшаньня якасьці прадукцыі, дабіўся даць „тавар" такой якасьці, каб сорамна ня было ні яму, як стараму рабочаму, ні брыгадзе маладых энтузіястаў, ні заводу.

Сярод маладых, бязвусых змагароў, ён выглядае бацькам, але ў якога таксама маладое сэрца, якое б'ецца ва ўнісон плённай і творчай рабоце. Гэта лепшая брыгада на заводзе. Яна займае пачэснае месца сярод іншых. Адгэтуль пайшла рэпліка—„Вывучаць не наогул тэхніку, а свой варштат, тэхніку свайго рабочага мейсца". І брыгада першай на заводзе ўзялася за вывучэньне свайго сьвідравальнага варштату.

Прайдзі сьлясарна-зборачны і цябе сустракае сьвіст чорных ад масла, пілавіньня пасоў, якія бягуць ад контрпрыводаў нібы ў перагонкі па бліскучых шківах такарных варштатаў. Сьпяваюць знаёмую і блізкую мэлёдыю...

Весела перагаварваюцца, ракочуць шасьцяронкі... Скрыгоча жалезная дэталь пад самакальным разцом. Белая стружка вужакай уецца з-пад разца...

Скручваецца ў кольцы і адарваўшыся ляціць на падлогу. У два шэрагі выцягнуліся такарныя варштаты.

У два доўгіх шэрагі, пад адну струну—лінейку. І гэтыя два шэрагі варштатаў бесьперастанку рэжуць, здымаюць іржу з жалеза, чыгуна, сталі. Сыпяць як попелам, залацістыя бронзавыя і медныя стружкі.

А людзі скідаюць гатовыя, апрацаваныя дэталі, каб упіцца самапальнымі і пабедзітавымі зубамі ў новую... І так з дня на дзень, з гадзіны на гадзіну, сьпяваецца мэлёдыя працы.

Гэта такарны цэх. Вось прыкладам варштат № 40, на якім працуюць былыя бяспрытульныя, прышоўшыя на завод у 1930 годзе з дзетдамоў і калёній.

Нязвычайнаму воку і розуму здавалася:—як ахапіць адразу ўсё, пачынаючы ад запраўкі разца і канчаючы гатовай дэтальлю?



СТЗ. Заліўка мэталем форм на канвээры

— Як навучыцца працаваць так, як працуюць другія?

На заводзе апынуліся ўпяршыню. А перад гэтым было:

— Цягнікі, паштовыя, кур'ерскія, таварна-пасажырскія. Пад вагонамі скрынкі, у якія залазілі і ў якіх мерылі неабсяжныя прасторы савецкае краіны. У якім імчаліся з гораду ў горад, у пошуках кавалка хлеба і вольнага жыцьця...

Начэўкі на вагзалах. Гульня ў „арлянку" і „очко" на сьцягнутыя ў пасажыраў грошы.

Потым дзіцячы дом, для некаторых калёнія. Вучоба ў школе і зараз завод. І стоячы ў цэху за варштатам, ім здавалася, што трансмісіі сьпяваюць такі звыклы матыў:

„Я остался сиротою,
Счастья,—доли, мне нет".

Адначасова было шкода свае „вольнасьці" і хацелася стаць токарам...

У малюсенькі камячок сьціскалася, трапятала, як злоўленая птушачка сэрца.

Ішлі дні, і месяцы. З былых бяспрытульных сталі высокакваліфікаванымі рабочымі. Пераварыліся ў заводзкім катле і стаў завод даражэй за ўсё.

І зараз Сашка Лібман і яго сябры,—камсамольцы, члены бюро ячэек, члены бюро калектыву. Завод аднавіў для жыцьця поўнакроўнага і творчага. Завод вывеў на шырокі шлях. Вырваў з павуціньня бяспрытульнасьці і зладзейства.

Зрабіў новымі людзьмі. Ды ці толькі адных бяспрытульных завод накіраваў і навучыў бачыць і тварыць новае жыцьцё.

Ці-ж не завод за 10 год існаваньня выхаваў, выпесьціў і даў не адзін дзесятак каштоўных работнікаў, партыйна-савецкага друку, партыйных, прафсаюзных, камсамольскіх, тэхнікаў, дактароў, інжынэраў.

Ці-ж не завод адчыніў ім шлях у сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы?

* * *

На месцы дробнай майстэрні па рамонту сельскагаспадарчых машын, высяцца карпусы—

**Чырвонаштандартнага машына-будаўнічага і чыгунна-ліцейнага заводу імя Кліма Яфрэмавіча ВАРАШЫЛАВА**

# П Я Т Н А Ц Ц А Ц Ь  Г О Д

Ад 27 рабочых у 1922 г. завод павялічыў лік рабочых да 1.100 у 1932 г., ад падкоў, лыжак, вулічных ліхтароў і вагаў перайшоў на выраб: такарных і сьвідравальных варштатаў, камнядрабілак „Акмэ“, торфапрэсаў і іншых машын, якія раней вырабляліся выключна за мяжой. Выпушчае прадукцыі на 5.400 тысяч рублёў у 1932 годзе.

А праз другую пяцігодку будзе мець 2.715 рабочых і ў 1937 годзе выпусьціць прадукцыі на 11.423 тыс. руб., павялічыцца ў два з лішнім разы.

І ці-ж ня гонарам гарэць вочы варашылаўцаў, калі іх сьвідравальныя варштаты, з іх маркай, зробленыя брыгадай пад кіраўніцтвам Міхася Пагоцкага, вязуць па чыгунцы ў Аўстрыю і Чэха-Славакію, экспартуюць.

І як сьмешны і наіўны разважаньні малавераў, што мы ня будзем мець свайго удасканаленага машынабудаўніцтва,

Сьмешна і наіўна думаюць і разважаюць 'шчэ некаторыя, і чаго варты яны, з дазволу сказаць гэтыя „людзі“.

Ці-ж ёсьць такія цытадэлі, якія бальшавікі ўзяць ня могуць?

Іх няма і ня будзе, бо карпусы заводаў гамоняць аб бліскучых перамогах,

## Г. МЕНСК ДА 15-Й ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВАЛЮЦЫІ



Праэкт аркі на тэму „Выканаем пяцігодку“




Праэкт афармленьня будынку ЦВК БССР




Праэкт аркі на тэму „Гатоў да працы і абароны“




Макет трыбуны і двух канструкцыйных установак на „Пляцу Волі“

Брыгадай мастакоў кооп.-прамысловага таварыства „Мастак“ у складзе т. т. Алтуф'ява В., Станковіч В., Тычыны А. і Сілінава М. праведзена праца па праэктыроўцы афармленьня г. Менску да дню 15-й гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Згодна пастановы Кастрычніцкай камісіі ўсяму афармленьню нададзена строгая комплексна-тэматычная ўвязка— асаблівая ўвага аддадзена Пляцу Волі, вуліцам Ленінскай, Савецкай і К. Маркса. На здымках некаторыя з праэктаў брыгады зацьверджаных Кастрычніцкай камісіяй.

**Цішка Гартны**

# ПЯТНАЦЦАЦЬ

Пятнаццаць славутых гадоў,
Пятнаццаць высокіх уступаў.
Кастрычнік Вялікі
К пабедам нас вёў,
Здабыткі іх плённыя купіў.

Часы грамадзянскай вайны,
Патугі на змору блёкадай—
Згаворы прадаўнікаў,
Кайзэр, паны,
Бароны,
Бандыты і
Рады—

Ў адзіны спляталісь клубок,
Адзіную мэту ўганялі—
Запяць пераможны
Наперад наш крок,
Спыніць барацьбы нашай хвалі.

Ды дарма патугі!
Як змрок,
Як дзікія зданныя цені,
Іх змыў—спаласкаў
Рэвалюцыі цёк
Сваім пераможным імкненьнем.

Рабочае клясы парыў,
Чырвонае арміі мужнасьць
Вярнулі магчымасьць
Да фабрык, да ніў
Нам творчую ўвагу
Напружыць.

І цяжкія раны вайны,
І царскае спадчыны плямы—
Спалілі няшчадна
Рашуча гарны
Рабочае справы агнямі.

Над полем калгасным гудзе
Мэлёдыяй трактар
Чыгуннай!
Нас партыя Леніна
Мужна вядзе
Туды,
Дзе сьвятлее Камуна.

У сьпевах заводзкіх гудкоў
Над шумнай
Бурлівай сталіцай
Стаяць рыштаваньні,
Узьнеслых будоў,
Развойнае творчасьці
Б'ецца крыніца.

Вялікага пляну работ
Растуць пераможныя ўздымы...
Ня спыніць, не, вораг
Наш стройны паход—
Радамі ідом баявымі!

На спробы замахаў—шчыльней
Злучаюцца нашы калёны.
І посьпехі працы
Сягаюць вышэй,
І жорсткасьці болей ў законах.

Хай ведаюць тыя, каму
Няведама гэта сягоньня!..
Вялікі Кастрычнік
Свой сьцяг разгарнуў,
Палотнішчам рэе чырвоным.

Разгонам кіпучых падзей
Ён шэрагі нашы гартуе
І новы уступ
К камунізму кладзе,
І новыя скрэпы
Рашуча штурмуе.

Гары-ж, разгарайся уздым
Будоўнае творчае працы!
Кастрычніка вокліч
Над сьветам усім
Гучы перамогай ваяцкай!

**Р. Кобец і Ан. Вольны**

# ТАВАРЫШ КРАЛЕВЕЦКІ

Даўно адгрымелі франты грамадзянскай вайны, даўно пакалечаныя, укрытыя гарматнымі знарадамі палі з году ў год калосяцца прамяніста-жытнёвымі ўсходамі, і даўно ўжо на гэтых палёх замест злоснага татаканьня кулямётаў гучыць мірны рокат трактароў і жняярак. Паступова сыходзяць і межы з сялянскіх палёў. Стагодзьдзямі гэтыя межы барозьдзілі зямлю, стагодзьдзямі ўкрывалі яны твар зямлі сеткаю старэчых, немачных, аблітых потам маршчын.

Адгрымелі віхуры грамадзянскай барацьбы, адплываліся сьвінцом і жалезам гарматы, сьціхлі кулямёты. Абнавіліся пасьля навальніцы і памаладзелі палі, і пачала сыходзіць з іх густая сетка маршчын і пачалі ўкрывацца неабдымныя прасторы нашага Саюзу пазалотаю збажыны і пачалі ўзрастаць на гэтых прасторах новыя фабрыкі, заводы, электрастанцыі.

Глыбей і павольней ўздыхнулі выпрабаваныя ў барацьбе людзі і з новай энэргіяй зноў ўзяліся за працу на новых франтох будаўніцтва. І часта-часта, калі мы ўключаем у працу новае пабудаванае намі прадпрыемства і радуемся новай перамозе, паўстаюць успаміны аб мінулых баёх, аб мінулых перамогах і паражэньнях.

Але... розныя бываюць успаміны і розныя „ўспамінальнікі". Ёсьць у нас гэтыя бравыя ваякі, якія ўсе паходы Чырвонай арміі правялі за сталамі далёкіх тылавых канцылярый. У выпадку адступленьня гэткія „рыцары" заўсёды самаахвярна беглі непасрэдна ў першых шэрагах арміі, агалашаючы поле „брані" вясёлымі крыкамі. Але,—паспрабуйце пагутарыць з гэткімі? І калі ён „снизойдет" да гутаркі з вамі,—вы пачуеце як гэткі гэрой уласнаручна „сам на сам" узяў у палон танк, ды што танк—крэпасьць, ды што крэпасьць—падводную лодку.

Вы глядзіце на гэткага гэроя,—маленечкі ён, неказісты з выгляду,—пашкадаваць вам яго абавязкова хочацца, а як пачне ён гаварыць, разявіце рот ды дзівіцеся,—і як гэта, дзівіцёся, ён голымі рукамі падводную лодку ўвабраў? Але ёсьць і другія ўспаміны,—успаміны сапраўдных гэрояў грамадзянскай вайны, успаміны тых, хто сваё жыцьцё правёў на самых небясьпечных, самых баявых вучастках рэвалюцыі. Але гэтыя абветраныя і сільныя людзі разам з тым і надзвычай скромныя. І як цяжка, бывае прымусіць іх гаварыць аб сабе!

З імі трэба гаварыць моваю сьледчага:

— Ну, а як пад Перакопам было?

— Ну, а як пад Мурманскам?

— А завошта вам далі другі ордэн?

Пра некалькі эпізодаў з жыцьця аднаго з гэткіх людзей, Грыгора Максымавіча Кралевецкага і апавядаюць гэтыя радкі,—сьведкі нашага „допыту" цягам часу жнівеньскай ночы.

### Навука мату

Доўгі, працяглы, як быццам застужаны студзеньскім марозам, сьвіст кандуктара, далей кароткі рык паравоза і эшалён нэрвовым штуршком кратаецца з месца. Насустрэч паравозу ляціць сухі калючы сьнег, сьвішча вецер, бразгаюць—перагаварваюцца цяплушкі на сутыку рэек, паволі адыходзіць назад будынак станцыі, што ўхутаны халодным пылам сьнегу і скаваны лёдам. Эшалён вогненнай гадзюкаю прастуе, па роўнай, ухутанай белым саванам раўніне, на павятовы гарадок Кромы.

У цяплушках накурана. Гул чалавечых галасоў апаноўвае ўсё. Бушлаты маракоў перамешваюцца з шэрымі паабдзіранымі шынэлямі франтавікоў і з чорнымі постацямі рабочых. А ўсё гэта разам носіць назву чырвонагвардзейскага атраду асобнага прызначэньня.

Якое гэта такое асобнае прызначэньне, і чаму менавіта прызначэньне, а ня кірунак, пэўна ніхто ня ведаў, пачынаючы ад простага чырвонаармейца і канчаючы камандзірам атраду. Ведалі адно: едзем біць кулакоў, бандытаў, белых і ўсякую там іншую „контру". Наогул-жа ехалі ўстанаўліваць савецкую ўладу. Затым і было гэтулькі шуму, адчувалася гэткая напружная ўзьнятасьць. Шмат спрачаліся, блыталі палітычныя праграмы, лаяліся, але цьвёрда памяталі.—„Даёш Савецкую ўладу і далоў контру"...

У аднэй з цяплушак больш шумна і дымна, чым у іншых. Тут абгаварваецца „мяйсцовае", унутры-атраднае пытаньне: што рабіць з камандзірам? Сваяасаблівую прамову трымаў адзін з матросаў, хмура паглядаючы на таварышоў:

Не падыходзіць нам такі камандзір. Перш за ўсё—ні вусоў табе, ні барады—гэта раз!—матрос загнуў адзін палец на сваёй вялізарнай лапе,—па-другое—ня п'е (загнуў другі палец), па-трэцяе—ня курыць (загнуў трэці палец), па-чацьвертае

матам ня крые і, нават, ня умее... Забі мяне бог! Аі што вы на гэта, браточкі, скажаце?—матрос абвёў слухачоў урачыстымі вачыма, і ў гэтых вачох выразна адчувалася, ягонае запытаньне.

Браточкі маўчалі. Абвінавачваньні, якія матрос высунуў супроць камандзіра, былі сапраўды ўважнымі і яны пераконвалі ўсіх.

— Нікуды ня варты камандзір,—гнуў усё той-жа матрос, прыехалі мы гэта на станцыю... паравоз трэба зьмяніць... Ну, вядома, да дзяжурнага падаліся... так, вось і так. Паравоз падавайка. Той ні ў зуб нагой... Няма гаворыць, дзе я вам вазьму? Другі-б камандзір выцягнуў шпалер, ды дзяжурнаму пад нос: даеш паравоз... ядры госпада... трамта-ра-рам, у момант быў-бы... а наш усё ходзіць сабе ды пагаварвае: таварыш будзьце сьвядомым. Рэвалюцыя патрабуе. А потым, калі бачыць, што нічога ня выходзіць, як запішчыць: ды я вас,—пішчыць,—пад суд аддам... не затрымлівайце... Поўгадзіны прайшло пакуль паравоз дасталі.

— Пішчаў?—Ха-ха-ха,—перакатвалася па цяплушцы...

— Па камарынаму? Хо-хо-хо!

— Вядомая справа—пішчаў... У яго і голас гэткі танклявы... нібы ў дзіцяці... Не... што ты не кажы, а не падыходзіць нам гэткі камандзір!

— Давай выбіраць другога!

— Сьцяпанава...

— Яшчанку...

— Што вы мылам аб'еліся, ці што?—зароў усё той-жа матрос,—хто ў дарозе камандзіраў пераабірае?.. Прыедзем на месца ў Кромы... Ну, і таго... выберам належнага...

Гэтак і вырашылі. Імчыцца—захліпаецца па халоднай раўніне стэпу неспакойны эшалён, ляціць насустрач сухі калючы сьнег, сьвішча вецер, а ў суседняй цяплушцы таксама гутарка. Некалькі рабочых-чырвонагвардзейцаў упарта насядалі на маладога камандзіра Рыгора Кралевецкага.

— Абавязкова,—угаварвалі яны,—і курыць павінен і матам крыць... абавязкова... іначай ніякага ў цябе аўтарытэту ня будзе.

— Ды я ня ўмею... ну вас... ніколі ня курыў і ня лаяўся.

— Дарма, што ня ўмееш... навучым... ты павінен камандваць атрадам... мала каго выбяруць... навучышся,—па бацькаўску пераконваў пажылы рабочы.

І доўга ў той вечар вучылі маладога дваццацігадовага камандзіра яго бліжэйшыя таварышы высокаму мастацтву „мата“ і курэньня...

А на другі дзень „здольнасьці“ вучня разгарнуліся ва ўсёй сваёй шырыні.

Ціха падыходзіў эшалён да станцыі Кромы. Не чакаючы прыпынку камандзір саскочыў на пляцформу і закрычаў гучным, але яшчэ юнацкім баскам:

— Выходзь!

Без асаблівай ахвоты вылязалі чырвонагвардзейцы з цяплушак. Мала хто слухаўся не аўтарытэтнага камандзіра. Чортам уляцеў Кралевецкі ў цяплушку, дзе адбываўся мітынг, і зароў:

— Выгружайся! Трам-тара-рам-та-рам. Чаго парасажваліся, як куры на ношасьце ў пячонку... сялязёнку... косьці... анучы... старое жалеза... трам...



Вагоны для трамвайнай лініі Запарожжа—сац.-горад Днепрагрэсу



Пагрузка экспартнага лесу

Кулямі вылётвалі байцы з цяплушак, станавіліся ў шэрагі. Каля байцоў праходзіў малады камандзір—ён трымаў прамову:

— Каб ня было ніякіх няпрыстойнасьцяй... трам-та-рам... Каб я ня бачыў ніводнага п'янага... так і разгэтак... зразумела? Трахта-ра-рах! У выпадку чаго—пад ногаць... У пячонку... сялязёнку...

Нібы зьбянтэжаны стаяў атрад. Сотні шырока-адчыненых, зьдзіўленых вачэй упёрліся ў камандзіра. Цень захапленьня і пашаны прабегла па многіх тварах... Стаялі ды ціха перашэптваліся...

— Вось гэта, разумею! Файна крые, файна! Вось гэта камандзір... лепшага і ня трэба.

А камандзір працягваў прамову ў тым-жа кірунку. Густыя, сьмешна-закручаныя колцы дыму выляталі з яго роту. Нудзіла, ад махоркі круцілася галава, але... што зробіш? патрэбна...

Даўно гэта было... у студзені 1918 году... і сьмешна цяпер ваенкому N-й авіё-брыгады ўспамінаць у сабе дваццацёхгадовага камандзіра Грышку Кралевецкага. Сьмешна, а разам з тым так цёпла і так хораша.

### Эпізод з Зубковым

Той-жа 1918 год,—і тыя-ж Кромы.

Жыў ды быў у Кромах у той час кулак эз-сэр Зубкоў. І быў ён у той час камандзірам харчавальнай роты. Жыў ды быў Зубкоў (ну і з песьні слова ня выкінеш), жыў ды быў Зубкоў і добра пажываў.

Кулацтва зьбірала подпісы за далучэньне Кромаў да Скарападскага, а эс-эр Зубкоў жыў ды быў. І раптам у Кромы прыбыў атрад асобага прызначэньня Кралевецкага.

Атрад,—ды яшчэ асобага прызначэньня,—не ўпадабаліся гэтыя словы Зубкову і наважыў ён абязброіць атрад Кралевецкага. Намеціў Зубкоў плян дзейнічаньня і прыступіў са сваімі людзьмі да працы.

У цёмныя ночы налятаялі зубкоўцы на жыхароў,—рабавалі іх, а перад адходам папярэдліва растлумачвалі, што пацярпеўшы могуць зьвярнуцца ў любы час да ўлады са скаргаю за гэткія рабаўнічыя ўчынкі, на атрад Кралевецкага.

І вось, аднойчы зубкоўцы выкарысталі той выпадак, што бадай увесь атрад Кралевецкага быў накіраваны ў сумежны Дмітраўскі павет і рашылі абязброіць Кралевецкага разам з дзесяцьцю застаўшыміся з ім чырвонагвардзейцамі.

Ноччу харчавальная рота абкружыла памяшканьне, у якім знаходзіўся атрад асобага прызначэньня разам са сваім камандзірам...

Адзінаццаць чалавек супроць роты.

Маўкліва, у цёмры, набліжаліся сілуэты абкружыўшых.

У напружанай цішыні раздаліся цьвёрдыя, упэўненыя крокі некалькіх чалавек.

— Стой! Хто ідзе?

— Я—Зубкоў!—упэўнена прагучэў адказ.—Загадваю неадкладна скласьці зброю і...

І не пасьпеў дагаварыць. Два цёмных сілуэты вырасьлі перад самым ягоным носам, схапілі за рукі, да скроні Зубкова

шчыльна прытулілася дула нагану і Кралевецкі ціха прашаптаў на вуха Зубкову:

— Ні гука! Паўтарай у голас мае словы.

І скрозь трэск распачатай стралявіны прабіўся голас Зубкова:

— Рота! У казарму! Адставіць!

Дула нагана ўсё яшчэ ўпіралася ў скроню Зубкова і ён акуратна пераказваў усё тое, што шаптаў яму на вуха Кралевецкі.

— Рота адставіць!

І рота „адставіла". Частка яе была ў тую-ж ноч абяззброена, сам Зубкоў арыштаваны ў час нападу.

---

Гэта было на Украіне ў тыя гады, калі ўспыхвалі такія зарніцы, якія асьвятлялі вякі,—у тыя гады, калі бязупынна грымела навальніца, рэха ад якой будзе гучэць стагодзьдзі.

Гэта было ў тыя гады, калі асабліва на Украіне, розныя бандытствуючыя атаманы выраслалі як грыбы,—тыя самыя „атаманы", паплечнікі якіх гэтак дэкляравалі насельніцтву сваю праграму:

— Калі насельніцтва,—ня пойдзеце насустрач атаману і не ўнесяце вызначанага выкупу,—то атаман сам пойдзе насустрач насельніцтву і выража ўсіх пагалоўна.

...Сёмага красавіка 1919 году тав. Кралевецкі знаходзіўся ў Чэркасах па дарозе да Грыгор'ева, да якога ён быў прызначаны ваенкомам, а восьмага ў дарозе тав. Кралевецкі даведаўся, што Грыгор'еў выступіў супроць Савецкай улады.

Кралевецкі правільна ўлічыў, што Грыгор'еў з некаторага часу аднаго мёртвага ваенкома „прадпачытае" двум жывым. Дарога была невялікая, але трэба была прайсьці праз мост, а на масту застава. Грыгор'еўцы правяралі дакуманты. Збоку да правяраўшага дакуманты Грыгор'еўца побач з другімі асьцярожна падышоў і тав. Кралевецкі.

— Скідай мяшок! Не дазволена пераносіць рэчаў: крычаў вартавы мяшочніку.

— Раз сказана скідай, значыць скідай! Мы свае абавязкі ведаем!—пацьвердзіў збоку Кралевецкі. Грыгор'евец глянуў на Кралевецкага і зьвярнуўся да наступнага:

— Дакумант?

Праз хвіліну Кралевецкі ўжо з-за пляча вартавога праглядаў дакумант наступнага. Я думаю гэтага можна прапусьціць, асьцярожна, сказаў Кралевецкі.

— Прахадзі! пацьвердзіў грыгор'евец. А ты, цётка, куды збоку абходзіш? Правер, браток, у яе дакумант. Зьвярнуўся грыгор'евец да Кралевецкага. Кралевецкі праверыў.

— Слухай, а ты вунь у таго, што прайшоў мост, вунь,— у стракатай сьвітцы,—праверыў дакумант?—заклапочана запытаўся ў грыгор'еўца Кралевецкі.

— Здаецца не. А што?

— Вельмі ён падазроны!

— Зьбегай, браток, правер яго дакумант!

Кралевецкі пабег...

...і такі досыць спакойна дабег да спатканьня з чырвонаармейскімі часткамі.

---

З невялікім атрадам у дваццаць чалавек прабіваўся наперад да Грыгор'ева Кралевецкі. Ноч была цёмная. У чорна-бурым убраньні маланак, конямі топала па небу навальніца. У гэткую ноч, д'ябал яго разьбярэ, дзе свой, а дзе вораг, Паблісквалі маланкі, і асьвятлялі нейкіх людзей,—якія абкружылі невялічкую жменьку ашчаціні́ўшыхся штыхамі армейцаў.

Кралевецкі папаў у самае асяродзьдзе грыгор'еўцаў і разам са сваім невялічкім атрадам папаў у палон. Палонных зьмясьцілі ў нейкі барак і тут-жа пачалі допыт. Дапытываў віхрасты карчукаваты хлапец,—які ўва ўсім сумняваўся.

— Ты, што-ж камісар іхны будзеш?—дапытліва агледзеўшы палонных зьвярнуўся карчукаваты хлапчына да Кралевецкага.

— Я старшы тэлеграфіст!—адказаў Кралевецкі.

— Да, старшы тэлеграфіст? Вунь у нас старшы тэлеграфіст! Не падобны ты на старшага тэлеграфіста. Тэлеграфіст ня гэткі!

— Як,—ня гэткі?—перапытаўся Кралевецкі.

— У нас ня гэткі.

— Шкада, што ня ўсе тэлеграфісты гэткія, як ваш. Табе-б значна лягчэй было ў палонных разьбірацца.

Грыгор'евец падумаў, скептычна шчоўкнуў языком і зьвярнуўся да наступнага.

— Украінец!—адказаў той. Марчанка,—прозьвішча значыць маё Марчанка. Казак!

— Казак?

— Казак!

— Казакі не такія!

— На твайго знаёмага не падобны? перапытаўся Марчанка і дадаў:

— Дазволь, тав. Кралевецкі, я яго шашкаю парубаю.

— А дзе-ж твая шашка?—скэптычна запытаўся грыгор'евец. Не пахожа, каб у цябе шашка была.

— І то праўда,—згадзіўся Марчанка. Я і забыўся, што адабралі...

Грыгор'евец абвёў усіх сваім скэптычным вокам.

— Ну вось вам ліст паперы і каб праз поўгадзіны быў апісаны плян месцазнаходжаньня чырвоных частак. Ды вы не сумнявайцеся,—дадаў ён. Бо калі будзеце сумнявацца, то атаман аблегчыць вашыя сумненьні і ўсіх пусьціць у расход. Бывайце здаровенькі!

Грыгор'евец выйшаў.

Няма больш няпрыемнага адчуваньня, чым сядзець і чакаць свайго ўласнага расстрэлу,—горай, хіба тое, калі да гэтага ў цябе яшчэ баляць зубы.

А тут акурат аднаму забалелі зубы.

І вось чалавек пачаў хадзіць з кутка ў куток барака і скардзіцца на флюс, ды на ваенкомаў, за якіх праз паўгадзіны і яго павядуць расстрэльваць,

— А ты хочаш, каб цябе для рознастайнасьці мы... зараз-жа тут павесілі,—сувора глянуўшы на флюс запытаўся Марчанка. (Ні да гэтага выпадку, ні пасьля яго, я ніколі больш не спатыкаўся з тав. Марчанка, з мягкай журбою ўспамінае тав. Кралевецкі).

Неўзабаве фортка адчынілася і карчукаваты хлапец запытаўся:

— Ну, што напісалі?

— Не!

— Горай для вас!

— І так і гэтак горай!—згадзіўся Марчанка.

— І тое праўда,—не супярэчыў грыгор'евец. Ну напішэце да полудня! У апошні раз! Бацька загадаў, каб пад раніцу ўсіх у расход! Бувайце здаровенькі!

---

Раніцою падыйшлі савецкія бранявікі і адкрылі агонь па грыгор'еўцах.

Побач загараліся будынкі і ўжо прабягаючы каля барака з палоннымі, закрычаў ў апошні раз заклапочаны карчукаваты грыгор'евец.

— Усе тут?

— Усе!

— Шкода што ў расход ня пусьцілі,—аднекуль здалёк раздаўся яго сабалезнуючы голас.

Палонныя ўзламалі барак і пад агнём грыгор'еўцаў кінуліся туды адкуль грымелі свае гарматы.

---

Пяшчотны блакітны сьвет прабіваецца праз абажур і ўкрывае пакой роўным супакайваючым змрокам.

Тонкі жоўты прамень, са збочанага набакір абажура супыніўся на твары Кралевецкага, загуляў іскаркамі ў зрэнках яго вачэй.

Хутка ўжо будзе сьвітаць, а мы ўсё так-жа напружана слухаем словы тав. Кралевецкага, словы якія разгортваюць клубок успамінаў, запальваюцца астротамі і ажываюць у вобразах гэтых надзвычайных сустрэч і здарэньняў.

Гады грамадзянскай барацьбы, раны ў баях, ордэн Чырвонага сьцягу, вайсковая акадэмія і ўпартая вучоба да таго зьмянілі гэтага чалавека, што цяжка ў ім цяпер прызнаць вобраз таго маладога камандзіра, які ён толькі што стварыў перад намі.

Змрок мякка атуляе пакой тав. Кралевецкага. А ў пакоі кнігі на сталах, кнігі на паліцах, кнігі ў шафе. Вайсковая літаратура, кнігі па лётніцтву, філёзофія, літаратура па пытаньнях мастацтва, клясыкі, сучасныя савецкія пісьменьнікі, расійскія, беларускія, украінскія, апошнія навінкі замежнай літаратуры.

І бадай усё перачытана, пападкрэслена, передумана.

Удзень тав. Кралевецкі аддаваў загады па брыгадзе, цікавіўся сьвінарнікам, клапаціўся аб капусьце для сталоўкі, турбаваўся аб сваячасовым рамонце абутку для чырвонаармейцаў;—увечары тав. Кралевецкі спрачаўся з намі па літаратурных пытаньнях, абмяркоўваў апошнія тэатральныя пастаноўкі,—зараз цікава і радасна ўспамінае свае мінулыя гады, а заўтра знойдзе гэткія-ж цікавыя і патрэбныя словы ў сваіх турботах аб сваячасовым рамонце чырвонаармейскага абутку.



Генэральны сакратар ЦК УсеКП(б) т. В. СТАЛІН

**Рэальнасьць нашай праграмы — гэта жывыя людзі, гэта мы з вамі, наша воля да працы, наша гатоўнасьць працаваць па-новаму, наша рашымасьць выканаць плян.**

**СТАЛІН.**



Гомсельмаш. Канвэер збожжачысьцілак у зборачным цэху



Віцебск. Элеватар маслабойнага заводу, другі па вялічыні ў СССР



Элястычныя машыны на ф-цы „Дзьвіна"



Млыны крычаўскага цэмантнага заводу



Гомель. Нова-пабудаваны маргарынавы завод



Дом-камуна для рабочых у Гомелі

Гомель. Цэх маргарынавага заводу

**Пасьпяховае вык... нанье п...год... за чатыры ... яскравы п...зч... пераможнаг... б... даўніцтва ... лізму ў наша... краіне.**

**У друго... навейша... капіталі...ч... ў сьвядо...ых...**

Агульны в...ляд...





Турбіна электрастанцыі цэмантнага заводу ў Крычаве



Комсельмаш. Новыя магутныя варштаты



Макет дому мэтэаралёгічнага інстытуту ў Менску. Пабудова пачнецца ў 1932 г.



Новая швэйная фабрыка „Сьцяг Індустрыялізацыі" (Віцебск)

ляхова ыка-
е годкі
тыры ы —
ы па зчык
ожнага бу-
цтва цыя-
ў ашай
е.

другой пяцігодцы мы будзем змагацца за завяршэньне рэканструкцыі і стварэньне ...ейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі, за канчатковую ліквідацыю ...талістычных элемэнтаў і кляс наогул, за ператварэньне ўсяго працоўнага насельніцтва ...вядомых і актыўных будаўнікоў сацыялістычнага грамадзтва.



...ны завод цэмантнага заводу ў Крычаве



Газагенэратарны цэх шклозаводу ў Касцюкоўцы

ЮРКА ЛЯВОННЫ

# РУКАМІ БАЛЬШАВІКОЎ

*Нарыс камуны БВА*

### Здані мінулага... „у Літву“!

Пятро Міхаленя (семдзесяць год за плячыма, але зубы, што часнок, і ў вачох—вяселыя іскрынкі?), жоўтымі, закарузлымі пальцамі закручвае ў „козью ножку“ ладную шчэпаць махоркі і, не сьпяшаючыся, апавядае:

— Вы, вось, колькі ехалі ад Любані да Камуны? Паўтары гадзіны? Ну, вось, ды яшчэ на машыне, з форсам! А ў наш час іначай было... У наш час у Любань з гэных мясьцін адзін раз на год выпраўляліся.

Надзенеш, бывала, беленькія парткі саматканыя, суконныя анучкі чысьценькія, а лапцік лазою падаўеш — і пайшоў! Узімку гэта, адзін раз на год...

А калі з Кузьміч на Любань выправіцца трэ' было,—цяперака гэта праз нашую гатку, камунаўскую,—дзень язды,—дык тры тыдні блукалі! Бывала, выяжджаючы з двара, Кузьміцкі дзядзька кажа жонцы:

— Ну, старая, бывай! Заўтра тройца, — да Пятра мусіць, вярнуся. Еду ў Літву!

Так усе і лічылі: паехаў у Літву. На Старобін ехалі, а тады ўжо на Пагост, на Таль, — у аб'езд... Во якое бездарожжа было, во якое дзікунства.

... Стары Міхаленя, „перасоджаны“ маладымі чырвонаармейцамі, як дзівосная, архаічная кветка, на новую, камунараўскую глебу, звыш чаканьня — „прыняўся“, і „прыняўся“, як нельга лепей! Але ён ня зусім мае рацыю, Пятро Міхаленя, калі гаворыць, што толькі ў „іх часы“ на гэтых мясцох былі бездараж, дзікунства, галеча, жах палескага адзіноцтва і балотных туманаў.

Куды пазьней яго часоў—напярэдадні Кастрычніка і, нават, у першыя гады пасьля рэвалюцыі — востраў на балоце. дзе зараз выстраіліся прывабныя, сьветлыя будынкі камуны БВА, быў прытулкам першабытных вытворчых узаемаадносін, прытулкам цемрадзі, нэндзы і гвалту.

Балота, аточанае буйным сасоньнікам, стаяла стагодзьдзямі нярухома, самотна, настарожана. Калі вы возьмеце карту БССР, выданую інстытутам эканомікі Беларускай Акадэміі Навук, вы ня ўбачыце на ёй гэтага балота. Толькі на поўдзень ад мястэчка Любань, на правым беразе Арэсы, недзе паміж Рэчаньню і Кузьмічамі, цягнецца роўная, белая прастора.. Ні сяла, ні вёскі, ні паселішча... Гэта і ёсьць радзіма старых Міхаленяў.

Паляшук жыў на балоце... Ён меў, іншы раз, статак у 25—30 кароў і... сядзеў без малака (статак, як і сам „скотопромышленник“, зьдзічэў; малако адсасвалі падцёлкі, недагледжаныя каровы хадзілі ў ялаўках). Ён мог засяваць неабмежаваную плошчу збожжам — і ня меў кавалка хлеба (на багне, на гнілі, на вільгаці каласы выцягваліся ў бледнае, анэмічнае каліва і гінулі на корані).

Паляшук езьдзіў у горад толькі па соль. І нават такая паездка—раз у год—здавалася яму занадта вялікім „балаўствам“. Яна на пэўны час адрывала паляшука ад пякельнай катаржнай работы—цярэбляньня лядаў, зразаньня купін, габляваньня бярвён.

Адсюль і бярэ пачатак напалову—анэкдот, напалову—факт—аб тым, як у першыя гады рэвалюцыі ў гэтай мясцовасьці хутаране-паляшукі сеялі соль.

— Пасеяў мужык соль,—гаворыць пагудка, — на палянцы, пад сонейкам. Чакае тыдзень. Другі. Трэці. Ня ўзыходзіць! Паклікаў тады мужык папа—малебен адслужыць. Ледзьве той распачаў кадзілам баўтаць — выходзіць з лесу мядзьведзь... Ад папа толькі мокранькае месца засталося... З таго часу і апусьцела маленькая драўляная царква, што ў шасьці кілёмэтрах ад камуны: другі поп пабаяўся ехаць. А ўраджаю солі так і не дачакаўся мужык!

Паляшук (хутаранін, часта — бабыль) жыў на балоце. За гады імпэрыялістычнай і грамадзянскай войнаў балота папоўнілася дэзэртырамі, крымінальнікамі, бандытамі. Акаляючыя мястэчкі—Глуск, Любань, Старобін — яшчэ не пазбыліся крывавых успамінаў пра 1919—1921 гады... Тыя гады былі нясупынным канвэйерам пагромаў, якія наладжваліся бандытамі пры актыўнай дапамозе мясцовага кулачча.

### Астраханцы ідуць на балота

У гэты асяродак забабонаў, бандытызму, хвароб, на славуты—і тым ня менш слаба дасьледваны — Мар'інскі масыў рушылася ў 1929 годзе група энтузіястаў.

На адным з адчыненых партсходаў у №-скім Астраханскім Чырвонасьцяжным кавалерыйскім палку, напярэдадні дэмабілізацыі чарговага году, восем камуністаў заявілі аб жаданьні стварыць чырвонаармейскую сельскагаспадарчую камуну. Да іх далучыліся некалькі камсамольцаў і беспартыйных. Камуну тут-жа ўхвалілі „акцябрыць“ імем „Чырвоны Астраханец“.

У маі 1929 году на балота, хадакамі ад камунараў прыбылі: Кавалькоў, Модзін і Восіпаў. Ім адвялі 3200 гэктараў зямлі, на якой ў 1927 годзе былі праведзены некаторыя мэліарацыйна-дрэнажныя работы.

А праз месяц загула-закіпела на Мар'іне работа, замільгалі рыдлёўкі, застукалі сякеры; з хітраватай весялосьцю, заклапочана, запыхцеў пазычаны ў суседнім саўгасе трактар.

Пятро Міхаленя трымаўся тады асабістае думкі пра камуну:

— Цар, вось, быў... Стары ражым быў... Такая сіла была— і то з балотам нічога не зрабілі! А, вось, вы хочаце... Э-эх, малахольныя.

Узыходзілі і гасьлі над балотам зоры, па ранейшаму ў клейкія і млосныя чэрвеньскія вечары нізка-нізка над зямлёй пасьцілаўся туман і хутаране запэўнівалі, што далёка ў лесе чуваць:

Таблічкі на трактары прысланым консульствам СССР у Бэрліне ў падарунак камуне

# ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД

На пляцы супроць сталоўкі (у гэтым вялікім доме зьмяшчаюцца, апроч таго, ленкуток і праўленьне) адразу-ж большая палова моладзі выстраіваецца ў адну шарэнгу. Гэта пачынаюцца вайсковыя заняткі з дапрызыўнікамі 1910 году нараджэньня.

Заняткі звычайна праводзяць самі-ж камунары, сярод іх ёсьць некалькі дэмабілізаваных камандзіраў разьдзелаў і аддзялённых. Іншы раз з дапрызыўнікамі займаецца сакратар Любаньскага райсавету АСО-Авіяхіму тав. Грыгаровіч.

Вайсковай рабоце ў камуне аддаюць значную ўвагу. У мінулым годзе ячэйка АСО-Авіяхіму засеяла на карысьць абароны краіны 7 гэктараў канапель, сёлета—2 гэктары капусты. Часта наладжваюцца выхады на стрэльбішча (ціру, пакуль што, у камуне няма), пры чым у стральбе з дробнакаліберкі не адстаюць і жанчыны...

Да XV-ай гадавіны Кастрычніка ў камуне будзе абсталяваны і адчынены ўзорны вайсковы пакой. Ячэйка АСО-Авіяхіму спадзяецца, што з восені, з прыходам новых 100 сямей чырвонаармейцаў, якія ўліваюцца ў камуну, работа па ваенізацыі ўзьнімаецца на яшчэ вышэйшую ступень.

Менавіта тут, у чырвонаармейскай камуне, як нідзе, адчуваеш, якой гіганцкай школай ідэёвае пераробкі чалавечага матар'ялу зьяўляецца наша Чырвоная армія, як яна фармуе і арганізуе псыхіку, як загартоўвае людзей да апошняга і няўхільнага клясавага баю за пабудову бясклясавага грамадзтва ва ўсім сьвеце.

Бо камунары ведаюць, што:

Там за якіх паўсотні кілёмэтраў на захад, у краіне шыбеніц, тугі і гвалту, таксама „фармуецца“ і „выхоўваецца“ чалавечы матар'ял у шэрых шынэлях.

Ксяндзы і біскупы, „поручнікі“ і „пулковнікі“, хрысьціянскія дэмакраты і пэпээсаўцы імкнуцца прывіць забітаму муштрай, мікалаеўскай палачнай дысцыплінай і пятушыным патрыётызмам „жолнежу“ шалёную ненавісьць да „чырвонага імпэрыялізму“, „бальшавіцкага барбарства“, „камуністычнай заразы“. Яны рыхтуюць „жолнежа“ да боек за „карэннапольскія“ Кіеў, Гомель, Магілеў...

Выкінуты, праз пэўны час, з арміі салдат бяз усякіх пэрспэктыў, бяз хлеба, бяз вопраткі, бяз грошай—ідзе ў абрабаваную солтысамі ды старастамі вёску...

Вы памятаеце?

Каля фальварку Проміны, Ашмянскага павету, у кустох знойдзен труп дзіцяці. Сьледзтвам было ўстаноўлена, што гэта труп дзіцяці ўдавы Ядвігі Садоўскай, якая не магла пракарміць дзіцё і задушыла яго. Калі паліцыя зьявілася, каб арыштаваць яе, Садоўская пакончыла самагубствам“...

Або:

У Тустанавіцах, каля Барыслаўля, адбыўся арыгінальны выпадак—продаж жонкі за грошы. Пражываючы там Ян Пыгічка, будучы ў цяжкім матар'яльным становішчы, прапанаваў заможнаму суседу Сайдаку (шасьцідзесяці гадоваму) купіць жонку Ганну. На аснове пісьмовай умовы, складзенай пры сьведках, Сайдак абавязаўся карміць Яна Пыгічку тры месяцы і даў яму 50 злотых наяўнымі“...

## Ударнымі брыгадамі...

Да XV-годзьдзя Кастрычніка Камуна БВА падыходзіць з вялікімі дасягненьнямі. Пачаўшы літаральна з нічога, на забалочаных, дзікіх мясцох, камунары на сёньняшні дзень маюць у сваім распараджэньні моцную, культурную гаспадарку, узброеную найноўшымі машынамі, шматпольным севазваротам, апошнімі данымі агратэхнікі.

На сёньняшні дзень лік камунараў дасягнуў 518 чалавек. Агульная колькасьць зямлі ў гаспадарцы—10.000 гэктараў.

Вось кароткі пералік таго, чым распалагае камуна ў 1932 г.:

Пасеўная плошча яе складаецца з 1200 гэктараў (яравых культур). Паводле вытворча-фінансавага пляну на 1932 год гэтая плошча разьмеркавана так: канапель—410 гэктараў, бульбы—115, агародніны—150, аўса—200, шматгадовых траў—200, сілосных культур—20, грэчкі, проса, вікі—105 гэктараў.

У камуне ёсьць пасека на 100 калод пчолаў, дзьве малочныя фэрмы (у самай камуне і ў аддзяленьні, у Ярэмічах) па 100 галоў кожная і птушкафэрма (350 курэй).

На тэрыторыі камуны і вакол яе прарэзьлівымі гудкамі абуджае спрадвечную цішу рад падсобна-прамысловых прадпрыемстваў. Уласная электроўня рухае млын-камбінат, які падзяляецца на мукамольнае аддзяленьне, просадзёрку, сукнавалку, маслабойку, дзьве цыркуляркі—круглыя пілы і лесапільны станок.

Працуюць дзьве цагельні з выпускам мільёну цэглаў за сэзон і парня, якая вырабляе дугі і палазы.

У камуне дзьве грузавыя аўта-машыны і дванаццаць вялікіх і малых трактароў самай рознастайнай канструкцыі, ад нямецкага „Гофман-Лінкса“ да „Чырвонага Пуцілаўца“. Каля іх завіхаецца звыш 30 шофэраў, трактарыстаў, малодшых старнавых.



Да вясны бліжэйшага году пагалоўе буйнай рагатай жывёлы будзе даведзена да 600 шт., сьвіньней—да 900, авечак—да 170 і курэй—да 1000 шт.

Асноўны вытворчы напрамак камуны—жывёлагадоўля. Да гэтага трэба дадаць яшчэ разьвядзеньне тэхнічных культур.

Мэтады сацыялістычнае працы не зьяўляюцца для камунараў абстрактнай катэгорыяй, чымсьці „кніжным“, унесеным звонку. Яны ўзьнікаюць у працэсе работы, сапраўдныя сацыялістычныя мэтады,—у самаадданасьці і ўзаемным падтрыманьні адзін аднаго на ўсіх вучастках камунальнае вытворчасьці, у здаровым спаборніцтве на выперадкі.

Ударнымі брыгадамі касцоў, агароднікаў, канюхоў, жывёлаводаў спаткалі камунары сёлетнюю бальшавіцкую ўборку. У вясновай пасеўнай здарыўся прарыў; па-першае, замест 17 патрэбных трактароў камуна мела тады „да бою гатовых“ толькі 8, а па другое балотная глеба, дрыгва, у шмат якіх мясцох, „праявіла старую тэндэнцыю“—уцягвала ў багну трактарныя каткі і гусяніцы і не дала мажлівасьці сваячасова апрацаваць вызначаную колькасьць гэктараў. Гэтая акалічнасьць выклікала ў сваю чаргу вымушанае спазьненьне і з уборкаю.

Тут і было дзе паказаць сябе ўдарным брыгадам!

Значнае перавышэньне норм адразу-ж дала брыгада касцоў, на чале з брыгадзірам Якубам Анісімавым. Правільнай расстаноўкай сіл, поўнай ліквідацыяй абязьлічкі, „перасяленьнем“ на сенажаць на ўвесь час уборкі брыгада Якуба Анісімава дабілася таго, што ўжо на 10 жніўня быў цалкам убраны пасеў культурных траў (на плошчы 150 гэкт.), і на балоце, у аэрах і асацэ, скошана 228 гэк., зграблена 143 гэкт. і намётана 15 стагоў.

Ня горшыя паказальнікі ў агароднай брыгадзе Ульляна Лабановіча, жывёлагадоўчай брыгадзе Доры Барсуковай.

Узор новых, сацыялістычных адносінаў да працы дае сам старшыня праўленьня камуны, адзін з арганізатараў „оазіса на балоце“, Цімох Анісімаў. Сярод камунараў ён карыстаецца вялікім і заслужаным аўтарытэтам.

Характэрны факт: аднаго разу ў сталоўцы нейкі сэзоньнік, нездаволены мэню, прамармытаў:

— Ат, хвароба на іх з іхняй шамоўкаю... Якія абеды, такі, мусіць і старшыня камуны! Няйначай—лодыр...

Трэ было чуць, як абурыліся гэтай заўвагай жанчыны—камунаркі, што стаялі наўкол!

— Ты нашага старшыню не чапай!.. Ты-ж яго ня ведаеш!... Няхай-бы вы хоць усе на дзесятую частку да Анісімава былі падобны! Іш ты, знайшоўся,—ганьбіць гэткага чалавека...

## Рым, Прага, Бэрлін

Вялізарную дапамогу камуне аказваюць шэфы.

Апроч рэвваенсавету БВА, над ёю шэфствуюць: мясцком Савецкіх служачых у Італіі (Рым, Генуя, Мілан), савецкія калёніі у Чэха-Славакіі, Літве і Польшчы, прадстаўніцтвы СССР у Аўстрыі і ў Францыі, аб'яднаны камітэт служачых савецкіх устаноў, а таксама саюз студэнтаў СССР у Нямеччыне.

За два гады камуна атрымала ад нашых шэфскіх арганізацый за межамі два грузавікі, трактар, электрычную швэйную



**Побач з машынамі ў камуне значная ўвага аддаецца конскай цягавай сіле. На зд. уборка аўсу**

машыну, бялізну і розныя рэчы для дзіцячых ясьляў, гадзіньнікі для прэм'яваньня лепшых ударнікаў, літаратуру па пытаньнях сельскае гаспадаркі. Сшыткі для вучняў і г. д.

Сувязь з шэфамі выяўляецца, зразумела, не ў адных пасылках каштоўных падарункаў. Камунары перапісваюцца з работнікамі нашых прадстаўніцтваў, абменьваюцца весткамі пра сваё жыцьцё, вопытам сваёй работы.

Найлепей, найшчыльней зьвязаны камунары з работнікамі гандлёвага прадстаўніцтва СССР у Бэрліне.

Шэфтаварыства пры гэтым прадстаўніцтве з вясны 1932 г., разам з матар'яламі для пракладкі чыгункі вузкакалейкі прыслала нават у камуну нямецкага інжынэра.

Гэты высока-кваліфікаваны інжынэр на тую пару, пры „дэмакратычнай" дыктатуры Гіндэнбурга-Штрэземана—Гітлера быў ужо болей за паўгода беспрацоўны...

Гэты інжынэр—Фрыдрых Мюльлер—ня мог захаваць свайго захапленьня посьпехамі камунараў.

Я не магу ўявіць сабе,—неаднокраць казаў ён,—як на балоце, на гнілым балоце, можна было збудаваць такую гаспадарку... О, гэта болей, чым простая тэхніка! Гэта нязвычайны народ на балоце!

Ён шмат чаго ня мог уявіць, гэрр Фрыдрых Мюльлер,—агульнага катла, поўнага вызваленьня жанчын-камунарак ад кухні, мэтаімкненасьці і запалу камсамольцаў, ролі насьценнае і шматтыражнае газэты...

З гандлёвым прадстаўніцтвам СССР у Бэрліне камуна наладзіла жывую сувязь. Гэтай-жа вясною ў камуну прыяжджала камандыраваная шэфтаварыствам супрацоўніца прадстаўніцтва тав. Сьвежанцава.

Пра яе праабыванне ў камуне таварышы з праўленьня пісалі ў Бэрлін:

„У нас зараз ваш прадстаўнік т. Сьвежанцава. Вельмі добра, што яна прыехала. Кандыдатуру для пасылкі таксама выбралі ўдала. Яна вельмі многа дапамагае нам у рабоце. Узяла ў абарот нашу бухгальтэрыю, працуе з жанчынамі ў акаляючых калгасах. Пасьля яе прабываньня ў нас, мы спадзяемся, яшчэ мацней і рэальней стане нашая сувязь. Будзеце падрабязна ведаць, хто мы такія, чым багаты, і чаго не стае. Сьвежанцава так работай захапілася, што адмовілася ад курорта!"

Гэта не такое „шэфства", на якое, на жаль, часта хварэюць некаторыя нашы ўстановы,—сухія, казённыя адносіны, афіцыйная адпіска, абыякавасьць. Гэта—сапраўдны ўдзел у адказнейшай справе „ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў экономіцы і сьвядомасьці людзей", гэта сапраўдная, непасрэдная дапамога ўчарайшым чырвонаармейцам у арганізацы ячэйкі сацыялізму на балоце!

З дапамогаю шэфаў камунары ідуць наперад.

### Рэвалюцыя на палёх—рэвалюцыя ў быце!

Ужо выяжджаючы з Любані камунараўскі шофэр т. Адзярыха,—вясёлы, чарнявы, хлапец аграмаднага росту—папярэджвае вас:

— У камуне—як у горадзе, будзьце ўпэўнены! Ня тое, што тут... І электрычнасьць ёсьць, і радыё, і дамы, як дамы!

Брудная мястэчка, сапраўды, яшчэ не адбудавана, як належыць.

І таму рэзкай супрацьлегласьцю Любаньскай гразішчы, асяродку абывацельскіх плётак і дробных склок, праз паўтары гадзіны язды паўстае пасёлак камуны.

Перш за ўсё—расплянаваныя ў суровым парадку жыльлёвыя дамы. Іх даволі многа. Вызначаецца адзін вялікі—на 48 кватэр; 5 дамоў маюць па 14 кватэр. Ёсьць і меншыя.

Усе дамы—новыя, драўляныя, аднапавярховыя. Яны яшчэ пабліскваюць залацістай смалою і ў прасторных пакоях (калідорная сыстэма) пахне сьвежым лесам і хвояй.

У гэтых дамох новыя людзі пачынаюць жыць па новаму! Цэлы шэраг новаўвядзеньняў у быт зрабіўся арганічнай патрэбай новых гаспадароў на балоце.

Так, канчаткова зьнішчана залежнасьць ад кухонных гаршкоў,чапялы, ухватаў. Усіх камунараў з посьпехам абслугоўвае сталоўка. У камуне ёсьць дзіцячы сад і яслі на 43 дзіцёнкі.

Уласны радыё-вузел абслугоўвае 54 кропкі. Гэта значыць, што ў пераважнай большасьці кватэр устаноўлены гучнагаварыцелі, а дзе-ні дзе—радыё-навушнікі.

Штодня, пасьля работы, у ленкутку грае грамафон. Працуе чытальня. Ёсьць і патэфон, прэзэнтаваны камуне рэвваенсаветам БВА,—якім камунары карыстаюцца ў парадку чаргаваньня.

На ўзгорку, каля самага лесу, супроць складу малочных прадуктаў, стаіць невялічкі будынак кааперацыі, з двума аддзяленьнямі спажыўтаварыства і Белгандлю. Аддзяленьні забясьпечваюць камунараў аддзеньнем, мылам, living рознымі іншымі прамтаварамі.

На шклографе, тыражом у 600 паасобнікаў, друкуецца шматтыражка „Камунар". Апроч яе выдаецца агульна-пасялковая ільлічоўка і ў трактарыстаў і на скотным двары—свае, цэхавыя, насьценгазэты.

Цікава яшчэ адна бытавая дэталь. Аднэй з першых пабудоў на тэрыторыі камуны зьявілася лазьня з пральняю. У карыстаньні гэтымі ўстановамі дасягнуты, як гавораць камунары, сваясаблівы „камунізм", чалавек, які прышоў у лазьню, здае тут-жа дзяжурнаму сваю бялізну і ў абмен атрымлівае чыстую. Ніякіх клопатаў! Лазьня паліцца штотыднёва.

Гэтая дробязь, здавалася-б, не заслугоўвае ўвагі ў нарысе. Але трэба ўзяць пад увагу адну маленькую акалічнасьць. Тое, што ў гэтай мясцовасьці і ў навакольлі спрадвеку ня было і зараз бадай няма лазьняў.

Паляшчук „грунтоўна" мыўся два разы ў год, напярэдадні вялікіх сьвят, у начоўках, у курнай, цьмянай халупе,

Радкі К. Крапівы:

> „Беларус па вушы гразьне
> Але ў вёсках Беларусі
> Днём з агнём ніводнай лазьні
> Не знайшоў бы, нават, мусіць".

відавочна, мелі на ўвазе ў першую чаргу—Бабруйшчыну!

Па выхадных днёх у сталоўцы, заля якое на той выпадак ператвараецца ў відоўню, дэманструюцца кіно-фільмы. Час ад часу камуну наведвае тэатр Смаленскага Цэнтральнага Дому Чырвонай арміі.

Практыка камуны, новыя запатрабаваньні новых людзей, разбівае ўшчэнт праклён стагодзьдзяў—традыцыі цемры, забітасьці, бязкультур'я.

### Агні ня згаснуць!

Але ёсьць традыцыі, якіх строга прытрымліваюцца камунары Традыцыі, пад штандарам якіх яны змагаюцца і перамагаюць

Гэта традыцыі №-скага Астраханскага Чырвонасьцяжнага кавалерыйскага палка!

У свой час, адбіваючы атакі нязьлічаных ворагаў краіны саветаў, астраханцы рабілі герoічныя паходы па стэпах Башкірыі, па сухіх саланчаках Закаспійскага ўзьбярэжжа,—біліся з атаманамі, з басмачамі, з золатапагоньнікамі,

Захоўваючы лепшыя традыцыі старых байцоў-астраханцаў, маладыя чырвонаармейцы-камунары з тэй-жа заўзятасьцю, аддаюцца і героізмам б'юцца за кожнае каліва збожжа, за кожнае цялё, за кожнае дасягненьне ў гаспадарцы.

Ім вядома,—маладым астраханцам,—што кожнае такое дасягненьне мацуе экономіку краіны пралетарскае дыктатуры, мацуе, разам з тым, яе абароназдольнасьць у будучых баёх з інтэрвэнтамі.

Гэтыя традыцыі вядуць камунараў у бой за поўную сацыялістычную рэканструкцыю вёскі, за новыя перамогі ў калектывізацы. Камуна БВА шэфствуе над вёскай Нежын, за 10 кілёметраў ад пасёлку. У выніку шырокай, масава-растлумачальнай работы, праведзенай камунарамі сярод беднякоў і серадыякоў-аднаасобнікаў, уся вёска Нежын увайшла ў калгас. У гэтую вёску накіравана стацыянарнае кіно, шмат літаратуры, ёй дапамагаюць машынамі і насеньнем.

Да XV-ай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ў камуне адчыняецца школа-сямігодка, будзе пабудаваны яшчэ адзін жыльлёвы дом на 16 кватэр, новая канюшня для 50 коней і скотны двор у Яраміцкім аддзяленьні камуны на 100 галоў буйнае рагатае жывёлы.

Камуна мае ўсе даньня для далейшага росту. За гэтае лета праз яе прайшло каля 1000 чырвонаармейцаў-экскурсантаў. Як згадвалася вышэй, сёлета ў яе ўвальюцца 100 новых сямей чырвонаармейцаў, дэмабілізаваных з розных частак Беларускай Вайсковай акругі. З лістападу пры камуне распачынаюць працу курсы трактарыстаў, разьлічаныя на 50 чал.

Неўзабаве ад насёлку камуны на Сосны (саўгас імя X-цігодзьдзя БССР) і далей пабягуць рэйкі чыгункі.

... Вечарамі над пасёлкам роўна і зырка гараць агні электрычных ліхтароў, бесьперапынна гудзіць матор на млын-камбінаце,—і балота, абступіўшы камуну з усіх бакоў, глядзіць, слухае і не дае веры.

Агні над балотам!

Яны сымбалізуюць жалезную ходу мільёнаў, агні запалу новых людзей у барацьбе за сацыялізм.

Гэтых агнёў не згасіць ніколі і нікому!

**Выкананьне народнагаспадарчага пляну 1932 г., што азначае скончэньне пяцігодкі ў чатыры гады, будзе найвялікшым посьпехам у барацьбе з капіталістычным абкружэньнем і буйнейшай перамогай ня толькі рабочай клясы СССР, але і ўсяго міжнароднага пралетарыяту.**

*З рэзалюцыі II сэсіі ЦВК.*

**Пры даных матэрыяльных сродках, на аснове большай эканоміі, лепшага скарыстаньня вытворчых магчымасьцяй, лепшай мабілізацыі сіл і лепшага практычнага кіраўніцтва дасьць краіна больш прадукцыі і лепшай якасьці.**

*З рэзалюцыі XVII Усесаюзнай партканфэрэнцыі.*



## ВЫКАНАНЬНЕ ПЕРШАГА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛЯНУ ПА КАПІТАЛЬНАМУ БУДАЎНІЦТВУ

(у тыс. руб).

| Назва галін | Намечана на 5 год | Фактычнае выкананьне | | | | 1932 г. па пляну | Капітальныя ўкладаньні за $4^1/_4$ г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 28-29 | 29-30 | Асоб. кварт. | 1931 | | |
| Тарфяная . . . . | 13096 | 509 | 2514 | 642 | 6535 | 9000 | 19200 |
| Мэталёапрацоўчая . | 23102 | 3150 | 4530 | 940 | 5590 | 5800 | 20010 |
| Хімічная . . . . | 11826 | 452 | 1831 | 243 | 2450 | 2669 | 7645 |
| Будаўніч. матэрыялаў | 16921 | 1808 | 4556 | 1600 | 4866 | 13955 | 29785 |
| Штучнага валакна . | 11550 | 1600 | 7480 | 2540 | 6610 | 4200 | 22430 |
| Усяго . | 76495 | 7519 | 20911 | 5965 | 29051 | 35624 | 99070 |



Узьняць прадукцыйнасьць працы на фабрыках і заводах, шырэй разгарнуць сацспаборніцтва і ўдарніцтва—важнейшая задача арганізатараў сацыялістычнай гаспадаркі, справа ўсяе рабочае клясы.

## ВЫКАНАНЬНЕ ПЕРШАГА ПЯЦІГАДОВАГА ПЛЯНУ ПА ЦЯЖКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ БССР ПА ВАЛАВОЙ ПРАДУКЦЫІ

(у тыс. руб. па цэнам 1926-27 г.)

| Галіны прамысловасьці 1927-28 | 1927-28 | Фактычнае выкананьне пяцігодкі | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 28-29 | 29-30 | Асоб. квартал | 1931 г. | Чакаем. выканан. | Аб'ём прадукцыі за 4¼ гады | Выкананьне пяцігадовага пляну ў % па аб'ёму |
| Тарфяная . . . . . | 912 | 1470 | 2754 | — | 4525 | 6659 | 15408 | 72,1 |
| Мэталёапрацоўчая . | 11060 | 15461 | 25136 | 10538 | 40824 | 42328 | 134287 | 102,8 |
| Хімічная . . . . . | 519 | 1568 | 1985 | 681 | 2459 | 3233 | 9926 | 32,1 |
| Будматэрыялаў . . | 2090 | 1857 | 2518 | 378 | 1955,5 | 2611 | 9319,5 | 37,2 |
| Штучнае валакно . . | — | — | — | — | 14324 | 34214 | 48538 | 122,6 |
| Усяго . . . | 14581 | 20356 | 32393 | 11597 | 64087,5 | 89045 | 217478,5 | 87,9 |

Заўвага: 1. Выкананьне па тарфяной прамысловасьці па Белторфу з заводамі, якія адыйшлі ад яго ў 1932 г.

2. Выкананьне па мэталёапрац. прамысловасьці ўзята з адыйшоўшымі прадпрыемствамі „Камінтэрн" ігольнай ф-кі. Апрача таго ў фактычнае выкананьне ўваходзяць прадпрыемствы, якія не праектаваліся пяцігадовым плянам: ігольная ф-ка „Ударнік", ім. Сталіна і „Чырв. Адраджэнец".

3. Хімічная прамысловасьць узята па ўсіх прадпрыемствах асноўн. хіміі, што знаходзяцца ў 1932 г. у лёгкай прамысловасьці.

4. Керамічная дае асаблівы рост у 1932 г. у сувязі з разгортваньнем новых вытворчасьцяй. У керамічную у 1932 г. уваходзіць горна-рудная прамысловасьць і цэмантны завод.





# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ БССР

| Галіны прамысловасьці | Валавая прадукцыя ў цэнах 26\|27 г. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 27\|28 г. | 28\|29 г. | 29\|30 г. | 1931 г. | 1932 г. |
| Скурана-абутковая . . . . . . . | 10146 | 16255 | 32360 | 57195 | 59457 |
| Тэкстыльная . . . . . . . . . | 8531 | 12927 | 20466 | 25113 | 35508 |
| Швэйная . . . . . . . . . . | 14144 | 36791 | 83427 | 186243 | 191442 |
| Запалкавая з фанэр. . . . . . | 9329 | 12787 | 12481 | 20575 | 19779 |
| Шкляная . . . . . . . . . . | 6791 | 8149 | 9785 | 7876 | 9796 |
| Хэмічная . . . . . . . . . . | 393 | 893 | 3694 | 4604 | 5725 |
| Паліграфічная . . . . . . . . | 2658 | 4073 | 5868 | 12670 | 14439 |
| Разам . . . . . . . | 51992 | 91675 | 176081 | 314276 | 336146 |



# АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ БССР

| Галіны прамысловасьці | Сярэдняя гадавая колькасьць рабочых | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 27\|28 г. | 28\|29 г. | 29\|30 г. | 1931 г. | 1932 г. |
| Скурана-абутковая | 1214 | 1838 | 3624 | 6004 | 5639 |
| Тэкстыльная | 3634 | 3657 | 4843 | 5406 | 6115 |
| Швэйная | 1597 | 3172 | 5326 | 11361 | 12924 |
| Запалкавая з фанэр. | 3818 | 4484 | 6402 | 5847 | 4541 |
| Шкляная | 3164 | 3827 | 4126 | 3467 | 3314 |
| Хамічная | 103 | 168 | 469 | 552 | 501 |
| Паліграфічная | 439 | 460 | 512 | 1420 | 1355 |
| Разам | 13969 | 17606 | 25302 | 34057 | 34389 |

## АСНОЎНЫЯ ПАКАЗЧЫКІ ПРАЦЫ ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ БССР

| Галіны прамысловасьці | Капіталаўкладаньні ў тысячах рублёх | | | | |
| --- | --- | --- | --- | --- | --- |
| | 28-29 | 29-30 | Асоб. кварт. | 1931 г. | 1932 г. |
| Скурана-абутковая . . . | 2405 | 3920 | 880 | 3086 | 1158 |
| Тэкстыльная . . . . . . | 2832 | 3683 | 976 | 4603 | 3026 |
| Швэйная . . . . . . | 1546 | 2492 | 1266 | 2514 | 1158 |
| Запалк. з фанэр. . . . | 2334 | 2525 | 335 | 1287 | 703 |
| Шкляная . . . . . . . | 938 | 795 | 145 | 521 | 507 |
| Хэмічная . . . . . . . | 451 | 567 | 112 | 709 | 1358 |
| Паліграфічная . . . . | 53 | 93 | 33 | 1033 | 900 |
| | 10559 | 13675 | 3747 | 13753 | 8810 |

Увага. За ўсе гады не паказаны: тарпяная прамысловасьць і рамонтны зав. „Камінтэрн". Па хэмічнай прамысловасьці ў 27-28 і 28-29 г. не паказаны: Лака-паліттурны завод і Крэйдавы завод. Па паліграфічнай прамысловасьці па прадукцыі і рабочым за 27-28 28-29 і 29-30 г. г. не паказаны прадпрыемствы перададзеныя ў 1931 г. Паліграфаб'яднаньню; капіталаўкладаньні да 1931 г. паказаны толькі па Палесдруку. Па капіталаўкладаньням за ўвесь час не паказаны затраты па Будаб'яднаньню і Нав. дасьледч. Ін-ту.

**Усе варштаты лёгкай індустрыі на поўны ход! Выканаем поўнасьцю плян тавараў шырпатрэбу. Сустрэчным патокам прамтавараў разгорнем савецкі гандаль**



# Рост сельскай сацыялістычнай гаспадаркі БССР

## ПАСЕУНЫЯ ПЛОШЧЫ БССР

| Годы | Агульная пасеўная плошча БССР у тыс. га | у т ы м л і к у | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Азімых | Зернавых, яравых | Бульбы | Лён | Канапля | Савгасы | Калгасы | Агранам. кадры |
| 1913 | 2479,1 | 1160,9 | 902,9 | 323,3 | 71,5 | 15,4 | — | — | 241 чал. |
| 1928 | 3450,8 | 1354,0 | 1153,2 | 448,4 | 139,8 | 26,7 | 41,6 | 25,6 | 474 „ |
| 1932 | 3720,2 | 1258,9 | 1189,9 | 590,4 | 266,9 | 30,6 | 204,3 | 1698,2 | 1490 „ |

## ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ

| Годы | Коні | | | Буйная рагатая жывёла | | | Сьвіньні | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Савгасы | Калгасы | Разам па савгасам і калгасам | Савгасы | Калгасы | Разам па савгасам і калгасам | Савгасы | Калгасы | Разам па савгасам і калгасам |
| 1928 | 5771 | 4577 | 10348 | 13662 | 12466 | 26128 | 2491 | 3072 | 5563 |
| 1932 | 18914 | 340298 | 359212 | 63035 | 445699 | 508734 | 106032 | 144252 | 250284 |




## ЖЫВЁЛАГАДОЎЧЫЯ ТАВАРНЫЯ ФЭРМЫ

| | 1931 год 1-X | 1932 год 1-X | Увага |
|---|---|---|---|
| Лік малочных таварных фэрм . | 901 | 1581 | |
| У іх кароў . . . . . . . . | 62138 | 89108 | |
| Лік сьвінагадоўчых фэрм . . . | 1288 | 2140 | |
| У іх сьвінаматак . . . . . . | 60224 | 74431 | |
| Лік фэрм па вырасьлів. цялят . | 501 | 1778 | |
| У іх цялят . . . . . . . . | 7032 | 72874 | цялят і маладняку |




## ТРАКТАРЫЗАЦЫЯ

| | 1916 г. | 1928 г. | На 1-VII 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Лік МТС . . . . . . . . . | — | | 57 |
| „ трактараў у МТС . . . . . | — | 173 | 2743 |
| „ „ у саўгасах . . . | — | — | 1176 |

# Лясная і папяровая прамысловасьць БССР





ПА ТРЭСТУ БЕЛДРЭЎ

| | 1929-30 г. | 1930-31 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Валавой прадукцыі . . . . . | 40.538 т. р. | 47.305 т. р. | 60.000 т. р. |
| Лік рабочых . . . . . . . . | 4.030 чал. | 6.477 чал. | 7.263 чал. |
| Капітальн. затрат . . . . . . | 6.879 т. р. | 8.251 т. р. | 5.400 т. р. |

# Лясная і папяровая прамысловасьць БССР



ПА ТРЭСТУ ЛЕСБЕЛ

| | 1928-29 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| Валавой прадукцыі | 40.000 т. р. | 106.300 т. р. | 114.800 т. р. | 117.000 т. р. |
| Лік рабочых. . . | — | 2.200 чал. | 4.902 чал. | 4.825 чал. |

ПА ПАПЕРТРЭСТУ

| | 1928-29 г. | 1929-30 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|---|
| Валавая прадукцыя ў цэнах 26-27 г. . | 19.114 т. р. | 28.409 т. р. | 19.194 т. р. | 32.710 т. р. |
| Лік рабочых . . | 2.997 чал. | 3.100 чал. | 3.376 чал. | 3.604 чал. |
| Сярэдняя гадавая зарплата. . . . | 876 р. 80 к. | 858 р. 10 к. | 921 р. 02 к. | — |
| Капітальн. укладаньні . . . . . | 2.085 т. р. | 3.637 т. р. | 4.905,7 т. р. | 3.400 т. р. |

## РАЗЬВІЦЬЦЁ АШЧАДСПРАВЫ Ў БССР



(у тысячах)

| Колькасьць укладчыкаў | 1923-24 | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па БССР . . . . . | 12,2 | 19,1 | 30,6 | 56,0 | 104,0 | 224,0 | 402,0 | 548,0 | 848,4 |
| у тым ліку: | | | | | | | | | |
| горад . . . . . . | 9,8 | 15,3 | 23,9 | 36,2 | 76,0 | 125,0 | 227,0 | 349,0 | 452.3 |
| вёска . . . . . . | 2,4 | 3,8 | 6,7 | 19,8 | 28,0 | 99,0 | 175,0 | 299,0 | 395,0 |

Заўвага: разьбіўка па гораду і вёсцы за 23-24 і 25-26 г.г. узята ў таніх-жа суадносінах, як у 1925-26 г. са зьніжэньнем на 2 проц.

| Колькасьць кас | 1923-24 | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па БССР . . . . . | 219 | 273 | 443 | 468 | 467 | 536 | 923 | 1.636 | 1.745 |
| у тым ліку: | | | | | | | | | |
| горад . . . . . . | 27 | 42 | 109 | 136 | — | 240 | 324 | 388 | 420 |
| вёска . . . . . . | 192 | 231 | 334 | 332 | — | 296 | 599 | 1.248 | 1.325 |

(у тысячах)

| Астатак укладаў | 1923-24 | 1924-25 | 1925-26 | 1926-27 | 1927-28 | 1928-29 | 1929-30 | 1931 | 1932 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Усяго ўкладаў па БССР. | 158,0 | 605,0 | 1.823,0 | 3.557,0 | 6.517,0 | 11.924,0 | 18.309,0 | 28.500,0 | 31.680,7 |
| У тым ліку фізычн. уклад. | — | — | — | 2.317,0 | 4.331.0 | 7.859 | 11.586,0 | 17.200,0 | 21.452,8 |
| | — | — | — | — | 148,0 | — | — | — | — |
| Юрыдычны ўклад . . | — | — | — | 1.240,0 | 2.186,0 | 4.065,0 | 6.723,0 | 11.300,0 | 102279 |

## РЭАЛІЗАЦЫЯ МАСАВЫХ ПАЗЫК У БССР

| Назва пазык | Рэалізавана (у тысячах рублёх) | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сярод рабочых і служачых | Сярод сялян | Іншага насельніцтва | Разам па БССР | У тым ліку: Горад | У тым ліку: Вёска |
| 1-я пазыка індустр. . . . | 1.905 | 243 | 554 | 2.702 | 2.459 | 243 |
| 2-я пазыка індустр. . . . | 8.464 | 646 | 1.154 | 10.264 | 9.618 | 646 |
| 3-я пазыка індустр. . . . | 14.792 | 1.728 | 1.451 | 17.971 | 16.243 | 1.728 |
| Пазыка „Пяцігодка ў чатыры гады“. . . . . | 15.291 | 3.437 | 1.347 | 20.075 | 16.638 | 3.437 |
| Пазыка „3-ці рашаючы“ . | 30.793 | 9.896 | 2.948 | 43.597 | 33.741 | 9.856 |
| Пазыка „4-га завяршаючага“ на 1-X—32 г. . . | 37.351 | 6.428 | 3.596 | 47.375 | 40.947 | 6.428 |












Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі.

Адказны рэдактар МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2655. 8000 экз. Уп. Галоўлітбелу №а 521.

